ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 36 (2490) 5 верасня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.



САКРАТУ ЯНОВІЧУ, БЕЛАРУСКАМУ ПІСЬМЕННІКУ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ, ГАНАРОВАМУ ЧЛЕНУ МІЖНАРОДНАЙ АКАДЭМІІ НАВУК ЕЎРАЗІІ, 4 ВЕРАСНЯ 1996 ГОДА СПОЎНІЛАСЯ 60 ГОД.

## САКРАТ ЯНОВІЧ: "ТАЛЕНТ — ГЭТА ЗДОЛЬНАСЦЬ ПРАЦАВАЦЬ"

Ён нарадзіўся ў 1936 годзе ў Крынках, што на ўсходнім рубяжы Беластоцкага краю. Пройдуць дзесяцігоддзі, і ён напіша ў адным з апавяданняў: "У заімшэлыя Крынкі, куды зьнікае правінцыяльны шлях, прыязджаюць рэйсавыя аўтобусы. Яшчэ з пасажырамі. Зьяўляюцца й аўты, абнюхваючы ўпатканаваныя завулкі, каб упаўзьці ў нечыя вароты (пад брэх сабарна). Часам ламарэньдзіць паміж платамі грузавік з брызэнтавым гарбом, сунучыся ў шорганьні галіноўя запушчаных прысядаў (нешта вывозіць). Прашлёпае забардзелы абадранец; дзесьці кідае ябукамі, бы каменьні на крушню, малады п'яніца.

Тут чамусьці ўсё восень, ці лета, а ці зіма. Не зразумець мне, дзеля чаго жывуць у Крынках людзі".

Але ж менавіта тут, у Крынках, у бацькавай хаце і жыве зараз Сакрат Яновіч, аўтар каля двух дзесяткаў кніжак прозы -- апавяданняў, эсэ і лірычных мініяцюраў. Жыве побач з сваімі Антонамі і Кастусямі, Ганьдзямі і Петрыкамі, побач з тымі, хто даў пажытак для яго творчасці і дзеля каго ён займаецца пісьменніцкай справай. Сюды ён вярнуўся, павандраваўшы па свету, каб падсумаваць вынік сваёй працы і зрабіць тое, што не паспеў у імклівай плыні часу...

Старэнькі, але ж яшчэ жвавы "FIAT" майго калегі Марэка Далецкага з "Кур'ера Падляскага" даімчаў нас з Беластока да Крынак і, запаволіўшы бег, спыніўся каля ўтульнага дамка па вуліцы Сакульскай. Гаспадар ужо чакаў нас і гасцінна запрасіў агледзець панадворак і дом. Адчувалася, што Сакрату прыемна ўсё паказваць, бо сам прыклаў шмат намаганняў да аднаўлення сядзібы. А для нас гэта была як бы ілюстрацыя да яго, поўнага гумару, апавядання "Бацкаў дом".

За кубачкам кавы гутарка ішла нетаропка і паволі падышла да галоўнай мэты майго візіту -- юбілею пісьменніка. Сакрат, пасміхаючыся, сказаў, што, маючы на рахунку шэсцьдзесят год, здзіўляецца, што ўжо мае іх і што гэта так хутка падышло. Здавалася, зусім нядаўна быў маладым хлопцам і нават не ведаў, што можа існаваць такая прафесія -- літаратар. А ўжо надышоў час агледзецца -- ці не марна час траціў, што паспеў?

Сакрат задаволены жыццём, хоць яно і па-рознаму складвалася. Закончыў электрычны тэхнікум, а затым настаўніцкую студыю ў Беластоку ды яшчэ факультэт філалогіі Варшаўскага універсітэта. Літаратурны дэбют адбыўся на старонках беларускага тыднёвіка "Ніва" ў 1956 годзе. (Так што можна адзначыць і саракагоддзе пісьменніцкай дзейнасці). Адначасова Сакрат Яновіч актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці. Часам гэта былі небяспечныя справы.

**НА ЗДЫМКУ: Сакрат ЯНОВІЧ у сваёй хаце ў Крынках.**

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

*НІБЫ І НЕЗАБАРОНЕНАЯ ТЭМА*

## ПЫТАННІ БЫЛІ І ЗАСТАЮЦЦА

Праблема лёсу афіцэраў польскай арміі, інтэрніраваных у СССР пасля ўваходу 17 верасня 1939 года часцей Чырвонай Арміі на тэрыторыю Польшчы, доўгія гады адносілася да ліку забароненых. У апошнія гады з'явілася магчымасць зазірнуць у раней закрытыя сховішчы, але дакументы не захаваліся поўнасцю. Смаленскі архіў НКУС, напрыклад, у гады вайны захапілі гітлераўцы (цяпер ён у ЗША). У гады Вялікай Айчыннай загінулі многія матэрыялы. У савецкіх архівах двойчы -- у 1947--1948 і 1956--1957 гадах -- праходзіла "чыстка" фондаў. Знішчаны многія тысячы дакументаў (напрыклад, амаль чатыры тысячы асабовых спраў з Старабельскага лагера і інш.). Усё гэта, а таксама яшчэ няпоўнае выяўленне архіўных матэрыялаў не дае магчымасці стварыць цэласную карціну. Пакуль пытанняў больш, чым адказаў на іх.

Што ж канкрэтна было вядома аб інтэрніраваных у 1939 годзе польскіх ваеннаслужачых па савецкіх і польскіх матэрыялах? Агульная іх колькасць -- не вызначана. Уяўленні аб шляхах, метадах фарміравання лагераў вельмі прыблізныя. Колькасць вязняў у афіцэрскіх лагерах называлася прыблізна, на падставе ўспамінаў. Аб лёсе салдат існавалі толькі агульныя здагадкі. Аб лёсе афіцэраў вядома толькі па катынскіх магілах Казельскага лагера (г.Казельск і Опціна Пустынь знаходзіліся тады ў Смаленскай вобласці; цяпер -- Калужская вобласць Расійскай Федэрацыі). Яны даюць магчымасць гаварыць аб прыблізнай колькасці пахаваных. Але ці можа там быць 10--12 тысяч трупаў, як аб'явілі гітлераўцы ў 1943 годзе, не вызначана. Вядома, што ўсе пахаваныя ў Катыні былі расстраляны.

На даны момант падставай вызначэння тэрміну іх гібелі з'яўляюцца: час спынення перапіскі са сваякамі, даныя эксгумацыі 1943 года, рэчавыя доказы, знойдзеныя ў 1943 годзе на трупах, але ў 1945 годзе знішчаны фашыстамі.

У Войску Польскім у маі 1939 года было 18,5 тысячы афіцэраў, у корпусе аховы межаў -- 846, у рэзерве -- 60 тысяч, у адстаўцы -- 12 тысяч. У выніку разгрому амаль мільённай польскай арміі ў верасні-кастрычніку 1939 года гітлераўскія войскі ўзялі ў палон каля 18 тысяч афіцэраў і 400 тысяч салдат. Частка польскай арміі змагла адысці ў Румынію, Венгрыю, Літву, Латвію.

Другая частка польскіх войскаў здала зброю Чырвонай Арміі. У верасні 1940 года ў газеце "Красная звезда" былі апублікаваны частковыя даныя аб іх колькасці — 181 тысяча салдат, прыкладна 10 тысяч афіцэраў.

Высветліць агульную колькасць інтэрніраваных цяжка. У дакументах ёсць сведчанні саміх інтэрніраваных аб тым, што многія адразу ж былі адпушчаны па дамах. У лагеры было 130 242 ваеннаслужачыя, уключаючы перададзеных у 1940 годзе з Прыбалтыкі.

Лёс як асобных людзей, так і цэлых катэгорый інтэрніраваных, тэрміны знаходжання ў лагерах не былі вызначаны адразу і не ў многім залежалі ад савецкага боку.

У кастрычніку 1939 года праходзілі перагаворы паміж намеснікам наркома замежных спраў В.Пацёмкіным і германскім паслом у Маскве фон Шуленбургам аб абмене насельніцтвам, інтэрніраванымі і ваеннапалоннымі, таму органы НКУС пастаянна адрозніваліі сярод інтэрніраваных тры групы. Да першай належалі асобы, якія жылі на тэрыторыях, што адышлі да СССР; да другой -- якія жылі на землях, што адышлі да Германіі; да трэцяй -- на тэрыторыях, што адышлі да Літвы.

У распараджэнні Берыі ад 3 кастрычніка 1939 года гаварылася аб роспуску па дамах усіх салдат, жыхароў Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Некаторыя катэгорыі салдат з этнічнай Польшчы належала сканцэнтраваць у Казельскім і Пуціўльскім лагерах аж да асобага распараджэння.

З'явілася ўказанне Берыі аб падрыхтоўцы да 8 кастрычніка 1939 года дакументаў і фарміраванні каманд інтэрніраваных для перадачы германскім уладам у адпаведнасці з пастаянным месцам жыхарства. Органам НКУС загадвалася не вызваляць афіцэраў пад выглядам салдат.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Бацькава хата.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



26 жніўня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка пабываў з рабочай паездкай у Слуцку.

НА ЗДЫМКУ: у час агляду выставы мясцовай прамысловасці.

*"КРУГЛЫ СТОЛ" БЕЗ ПРЭЗІДЭНТА*

## ІСТОТНЫХ ВЫНІКАЎ НЕ БУДЗЕ

Адбыўся "круглы стол" з удзелам лідэраў вядучых палітычных партый, Вярхоўнага Савета, а таксама прадстаўнікоў урада і некаторых грамадскіх арганізацый.

Пярэчыць ініцыятарам ідэі "круглага стала" як формы пошуку згоды ў грамадстве гэтак жа складана і бессэнсоўна, як і выступаць супраць рэферэндуму як сродку народнага волевыяўлення. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка пасяджэнне за "круглым сталом" праігнараваў, аб'явіўшы яго справай бескарыснай і не вартай увагі. У процівагу палітыкам, якія сабраліся 21 жніўня, кіраўнік дзяржавы ў сярэдзіне верасня збірэ свой, альтэрнатыўны "круглы стол", прысвечаны абмеркаванню праекта чарговай антыкрызіснай праграмы.

Нягледзячы на тое, што выніковы дакумент "непрэзідэнцкага" "круглага стала" пакуль не падпісаны, ужо сёння зразумела, што істотна паўплываць на развіццё палітычнай сітуацыі ў краіне гэта акцыя не зможа.

Сам факт правядзення "круглага стала" і змест падпісанага пагаднення зафіксаваў і без таго відавочную рэальнасць: усе вядучыя палітычныя партыі адзіныя ў сваім памкненні адстойваць прынцыпы прававой дзяржавы. Дзеючая Канстытуцыя для іх -- тая платформа, якая здольная аб'яднаць нават самыя непрымірымыя палітычныя сілы. Але гэтая ж Канстытуцыя -- бар'ер, які замінае падпісацца пад відавочнымі дэмакратычнымі прынцыпамі Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку. Канстытуцыйны суд за мінулыя паўтара года зафіксаваў больш як дзесятак парушэнняў Канстытуцыі і законаў, дапушчаных кіраўніком дзяржавы.

Увогуле, сітуацыя парадаксальная. Над праектам гэтай Канстытуцыі народны дэпутат Аляксандр Лукашэнка ў свой час актыўна працаваў у саставе канстытуцыйнай камісіі; гэтая Канстытуцыя адным толькі ўвядзеннем пасады Прэзідэнта адкрыла яму дарогу ў кіраўнікі дзяржавы; на гэтай Канстытуцыі ён прыносіў прысягу на вернасць народу, кленучыся выконваць яе, Канстытуцыю, і прынятыя на аснове яе законы; і яе ж Аляксандр Лукашэнка аб'явіў цяпер недасканалай, супярэчлівай, якая парушае баланс уладаў і пагражае дэстабілізацыяй у грамадстве.

Сёння ўжо відавочна: шанцы на тое, што першы Прэзідэнт Беларусі стане "магільшчыкам" першай беларускай Канстытуцыі -- вельмі высокія. Пасля перамогі на рэферэндуме ён будзе працягваць сваю лінію, але ўжо не сустракаючы ці амаль не сустракаючы супраціўлення.

Што да магчымасці ўсталявання ў Беларусі аўтарытарнага рэжыму, то яна існавала і будзе існаваць, як і амаль ва ўсіх краінах на пераходным этапе, якія перажываюць жорсткі эканамічны крызіс. І засцерагальнікам ад дыктатуры ў цяперашніх умовах служыць не столькі Канстытуцыя, колькі дэмакратычны дзяржаўны лад у Расіі і ў іншых суседніх краінах, на якія міжволі вымушана раўняцца Беларусь.

* * *

Чарговае пасяджэнне "круглага стала" беларускіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый пачалося з таго, што да прынятага на мінулым тыдні Звароту далучыліся яшчэ некалькі партый і грамадскіх рухаў.

У выніку працяглых перамоў, якія былі выкліканы рознымі пазіцыямі партый у дачыненні да прапануемага альтэрнатыўнага рэферэндуму і адносінаў да ініцыятывы імпічменту Прэзідэнта, партыі выпрацавалі кампрамісны варыянт Заявы. У ім канстатуецца наяўнасць найвастрэйшага сацыяльнага і палітычнага крызісу ў краіне.

Удзельнікі "круглага стала" заклікалі Прэзідэнта да 15 верасня адмяніць усе неканстытуцыйныя ўказы, "не праці́дзейнічаць праву народа давыбраць сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўны Савет і мясцовыя Саветы". У процілеглым выпадку ўдзельнікі "круглага стала" праз свае парламенцкія фракцыі гатовы пачаць працэдуру імпічменту.

*У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ*

## АБ УВЕКАВЕЧАННІ ПАМЯЦІ Б.І.САЧАНКІ

Каб увекавечыць памяць вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа Барыса Сачанкі, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў: прыняць прапанову Мінскага гарвыканкома і Міністэрства культуры аб устанаўленні ў 1997 годзе мемарыяльнай дошкі на доме N 29 па вул. Пулiхава ў Мінску, у якім жыў пісьменнік; Міністэрству культуры ў 1997 годзе стварыць дакументальны фільм аб жыцці і творчасці Б.Сачанкі; Дзяржаўнаму камітэту па друку, Саюзу беларускіх пісьменнікаў, Акадэміі навук Беларусі ў 1996-2000 гадах падрыхтаваць і выдаць збор твораў Б.Сачанкі ў 6 тамах; прысвоіць імя Барыса Сачанкі Велікаборскай базавай школе Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці; рэкамендаваць Гомельскаму аблвыканкому сумесна з Хойніцкім райвыканкомам вывучыць пытанне аб стварэнні філіяла Хойніцкага краязнаўчага музея ў в.Вялікі Бор, дзе нарадзіўся Б.Сачанка, і прыняць адпаведнае рашэнне; рэкамендаваць Хойніцкаму райвыканкому прыняць рашэнне аб наданні адной з вуліц горада Хойнікі імя Барыса Сачанкі.

*НАВІНКА*

## "БЕЛАРУСЬ" ЗА АКІЯНАМ

У незвычайна кароткі тэрмін -- два месяцы -- канструктары Мінскага трактарнага завода стварылі новую мадэль трактара. На гэты раз садовай мадыфікацыі -- "Беларусь-680". Напалову ён складаецца з серыйных дэталяў і вузлоў.

Першая партыя новых машын ужо сышла з галоўнага канвеера прадпрыемства. Пасля дапрацоўкі і абкаткі яны адгружаны ў ЗША, дзе фірма "Беларусь машынеры", вывучыўшы попыт на садовую тэхніку, накіравала іх на продаж. Навінку магутнасцю 80 конскіх сіл можна прымяняць у міжраддзі фруктовых плантацый, на вінаградніках, а мінімальныя габарыты дазваляюць выкарыстоўваць яго на работах унутры памяшканняў.

Трактар знайшоў пакупнікоў не толькі на поўдні, але і поўначы ЗША, бо ў ім па просьбе фермераў устаноўлены электрафакельны падагравальнік для хуткага запуску рухавіка.

*УРАДЖАЙ-96*



У гаспадарках Мядзельскага раёна завяршаецца ўборка збожжавых і зернебабовых культур. Ураджай сабраны ўжо больш чым з 80 працэнтаў плошчаў. Адначасова тут вядзецца нарыхтоўка насення азімага жыта. Калгас "Шлях да камунізму" Мядзельскага раёна ўжо нарыхтаваў яго звыш 360 тон. У гаспадарцы збіраюць на круг 26,4 цэнтнера. Ужо намалочана 1 806 тон збожжа.

НА ЗДЫМКУ: уборка збожжавых у калгасе "Шлях да камунізму" Мядзельскага раёна.



У племсаўгасе "Бярозкі" Гомельскага раёна вырошчваннем насеннай цыбулі займаюцца ўжо трэці год, але плошчу ў 35 гектараў "чарнушкай" і "рэпкай" засеялі ўпершыню. Збіраць цыбулю на насенне гаспадарцы дапамагаюць гараджане, 10 працэнтаў ад сабранага ім выдаецца ў якасці аплаты. А ў бягучым годзе ў "Бярозках" прадставілі работу і асуджаным, у якіх хутка заканчваецца тэрмін.

НА ЗДЫМКУ: сартаванне цыбулі ў племсаўгасе "Бярозкі" Гомельскага раёна.

*СЕЛЬСКІЯ ЖЫХАРЫ*



Горад не спакусіў Алену ПАЎЛЕНКА (на здымку). Скончыўшы Сцяпанкаўскую сярэднюю школу ў Жабінкаўскім раёне, яна некалькі гадоў працавала на розных прадпрыемствах Брэста. Але не змагла адарвацца ад роднай вёскі. Вярнулася ў Сцяпанкі. Пайшла працаваць на малочнатаварную ферму калгаса "Усход" падменнай даяркай. Другі год ферма працуе з прыбыткам. Ёсць у гэтай справе і частка працы Алены.

*НОВЫЯ ЭМІГРАНТЫ*

## ПАЗНЯКУ І НАВУМЧЫКУ ПРАДАСТАЎЛЕНА ПАЛІТЫЧНАЕ ПРЫСТАНІШЧА

Лідэру Беларускага народнага фронту Зянону Пазняку і прэс-сакратару БНФ Сяргею Навумчыку прадастаўлена палітычнае прыстанішча ў Злучаных Штатах Амерыкі. Гэтую інфармацыю пацвердзілі ў штаб-кватэры Народнага фронту.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, даючы на днях інтэрв'ю амерыканскаму агенцтву Асашыэйтэд Прэс, заявіў, што ніякай небяспекі для лідэра БНФ у выпадку яго вяртання ў Беларусь не існуе. "Ні адзін волас не ўпадзе з галавы Зянона Пазняка", -- сказаў А.Лукашэнка. Ён таксама абверг размовы пра магчымы арышт лідэра Беларускага народнага фронту.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ Беларусі прыняў распараджэнне аб адкрыцці аэрапорта "Віцебск" для міжнародных палётаў. У сувязі з гэтым Галоўнаму ўпраўленню пагранічных войскаў, Дзяржаўнай таможні, а таксама Мінсельгасхарчу і Міністэрству аховы здароўя даручана забяспечыць у аэрапорце правядзенне пагранічнага, таможнага, санітарнакаранціннага, ветэрынарнага і фітасанітарнага кантролю.

У ВЕНЕ завяршыўся буйны міжнародны шахматны турнір 17-й катэгорыі. Яго пераможцам стаў мінчанін Барыс Гельфанд, які набраў 5,5 ачка. У ліку пераможаных нашым земляком чэмпіён свету Анатоль Карпаў.

МІНСКІЯ ХАЛАДЗІЛЬНІКІ больш не ўяўляюць пагрозы азонаваму слою атмасферы. Газ фрэон у айчынных бытавых рэфрыжэратарах заменены на экалагічна чыстыя хладагенты. Поўнасцю на выпуск абноўленых мадэлей завод перайшоў 1 жніўня.

СЯРОД затрыманых на гарадскім транспарце "зайцоў" амаль 30 працэнтаў -- жабракі. У іх не толькі няма грошай, каб заплаціць за праезд, але і проста няма за што купіць прадукты харчавання. Штомесяц кантралёры затрымліваюць прыкладна 40--45 тысяч чалавек.

557 ПАЖАРАЎ было зафіксавана ў рэспубліцы за тыдзень. Полымя забрала жыцці 6 чалавек. Агнём знішчана і пашкоджана 242 пабудовы, 751 тона кармоў, 41 адзінка тэхнікі і 13 галоў жывёлы. Урон склаў адзін мільярд 879 мільёнаў рублёў. У сваю чаргу, на тушэнне лясоў і тарфянікаў беларускія пажарныя выязджалі 265 разоў.

У ВАЎКАВЫСКІМ РАЁНЕ за апошнія паўгода з'явілася на свет 426 чалавек, памерла на 140 больш. Яшчэ большы разрыў паміж смяротнасцю і нараджальнасцю ў вёсках, дзе крык нованароджанага, падобна, у недалёкай будучыні будзе лічыцца самым вялікім "святам".

ЯШЧЭ АДЗІН выпадак вандалізму абразіў памяць жыхароў Беларусі, загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны. У вёсцы Вялікая Ухалода Барысаўскага раёна невядомыя сарвалі з мацаванняў і раскалолі пяць мармуровых пліт з імёнамі жыхароў вёскі, што загінулі ў вайне. Злачынцаў шукаюць.

СА СЦЯНЫ будынка Гомельскага народнага суда ў ноч на 21 жніўня нехта ўкраў Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь. Каму і навошта мог спатрэбіцца гэты сімвал? Разглядаюцца наступныя версіі: палітычны акт; крадзеж з мэтай нажывы (у гербе больш за 50 кілаграмаў каляровага металу).

Гэтым летам упершыню ў Гродзенскім універсітэце на факультэце замежных моў працавала летняя школа па вывучэнню беларускай мовы і культуры. Першая група замежных студэнтаў з Люблянскага універсітэта атрымала ў жніўні сертыфікаты аб заканчэнні школы. Плануецца і надалей развіваць супрацоўніцтва паміж двума універсітэтамі.

*ЛЕКІ ДЛЯ ХВОРАЙ ЭКАНОМІКІ*

# ІНАВАЦЫІ — ЗАЛАТЫ КЛЮЧЫК ДА ПОСПЕХУ

**Актуалія N 1 беларускага палітычнага і эканамічнага інтэлекту -- пошук спосабаў выцягвання краіны з зацяжнога крызісу. Адны бачаць панацэю ў рэанімацыі былога, другія -- у дабразычлівасці і шчодрасці Расіі, іншыя, наадварот -- робяць стаўку на крэдыты і дапамогу Захаду... Карацей, рэцэптаў хапае, бяда толькі: не могуць дамарослыя лекары з цэлагаахапка прапісаных выратавальных лекаў выбраць менавіта тое, што трэба хвораму арганізму...**

**Сёння часта згадваюць мінулыя савецкія часы. Штосьці настальгічна перабольшваюць, штосьці незаслужана забываюць. Але факт застаецца фактам: апошнім часам у нас, шмат разважаючы пра прагрэс і развіццё, на справе ўсё часцей спісваюць ва "утыль" некалі створаны магутны навукова-тэхнічны і адукацыйны патэнцыял. Захаваць жа і развіць яго, выпрацаваць на дзяржаўным узроўні вартую інавацыйную палітыку -- гэта стала б адным з магістральных шляхоў Беларусі ў дастойнае заўтра.**

**Аднак што атрымліваецца на справе! Інавацыйнай палітыкі, на думку многіх спецыялістаў, на жаль, пакуль няма. Тым не менш важна, каб пошук не спыняўся, лічыць Аляксандр КАВАЛЁЎ, дырэктар Рэспубліканскага навукова-тэхнічнага цэнтра дыстанцыйнай назіральнасці прыроднага асяроддзя "Экамір":**

-- Думаю, многім зразумела: становішча ў галіне інавацый рэзка памянялася. Раней ствараліся праекты, нібы "расцягнутыя" па ўсёй краіне, пад патранажам саюзных міністэрстваў, ведамстваў, а некаторыя і Варшаўскага дагавора. І толькі дробная распрацоўка магла весціся ў адным інстытуце ці невялікай творчай групай. Характэрна і тое, што тагачасная, сапраўды вельмі цесная кааперацыя ажыццяўлялася толькі ў межах СССР, практычна адсутнічаў выхад на міжнародную арэну, а калі гэта і здаралася, то звычайна ўсё "замыкалася" на Маскве.

Але вось усё рухнула. У велізарнай Расіі нескладана кампенсаваць страту сувязяў. У нас жа сітуацыя прынцыпова іншая: сваіх сіл яўна недастаткова, патрэбна кааперацыя і з расійскімі, і з заходнімі структурамі. Прычым абавязкова з вядучымі кампаніямі свету, каб айчынная прадукцыя таксама была канкурэнтаздольнай.

Як вядома, на пустым месцы нічога не ўзнікае. Пры стварэнні новай тэхналогіі прыгінаецца да 70 працэнтаў ужо існуючых у свеце распрацовак. Сёння трэба актыўна рэалізоўваць ідэі, якія яшчэ ў нас засталіся, і выкарыстоўваць грошы, якіх у нас недастаткова, але хапае ў замежных партнёраў. Вядома, супярэчнасці ў такім выпадку непазбежныя: "яны" хочуць украпіць сваё, у выніку чаго "наша" застаецца незапатрабаваным. Прадпрыемства "Экамір" змагло гэта пераадолець.

Мы вядзём рэспубліканскую праграму "Дыстанцыйная дыягностыка", накіраваную на распрацоўку новых тэхналогій і прыбораў для дыягностыкі аховы прыроды. Фінансаванне ўзяла на сябе дзяржава, але выдзеленыя сродкі -- усяго толькі крыху болей палавіны ад неабходнага. Тады і падумалі аб супрацоўніцтве з заходнімі калегамі па іх жа тэхналогіях, якія абавязкова інтэграваліся б з нашымі і дастасоўваліся да нашых планаў. У выніку сёння ажыццяўляюцца два даследаванні: сумесна з Камітэтам па зямельных рэсурсах -- беларуска-швейцарскае і сумесна з Міністэрствам абароны і Мінпрыроды -- беларуска-амерыканскае. Пад першае з іх швейцарскі ўрад выдзеліў 2,9 мільёна долараў -- на распрацоўку тэхналогіі складання зямельнага і экалагічнага кадастра на прыкладзе Салігорскага раёна. Тут нам аказвае дапамогу сусветна вядомы швейцарскі канцэрн "Лейка".

Беларуска-амерыканскі праект прадугледжвае даследаванні па аднаўленню акаляючага асяроддзя на былых ваенных аб'ектах, ды і любой тэрыторыі, якая мае патрэбу ў падобнай апрацоўцы. Атрымана абсталяванне і тэхналогіі на 11 мільёнаў долараў, у тым ліку хіміка-радыяцыйная лабараторыя РНТЦ "Экамір". Заходнія распрацоўкі былі зноў-такі ўвязаны з айчыннымі ў адзіную тэхналогію, якая стала ўжо ўласнасцю беларускай дзяржавы і выкарыстоўваецца ў інтарэсах геалогіі, геадэзіі, лесагаспадаркі, сельскай гаспадаркі, аховы акаляючага асяроддзя нашай краіны. Усё гэта дазволіла нам выйсці на самыя перадавыя пазіцыі, што прызнана і заходнімі экспертамі. Прытым "Экамір" уклаў сваіх матэрыяльных сродкаў значна менш, чым замежныя партнёры, але ўсе інвестыцыі засталіся на Беларусі.

Асобна падкрэслю: пры сумесных пачынаннях абавязкова агаворваецца выкарыстанне матэрыялу, напрацаванага мясцовымі вучонымі. Праўда, у такім выпадку абавязкова патрабуецца, каб узровень нашых даследаванняў адпавядаў сусветнаму. А з гэтым значныя цяжкасці. Чаму? Ужо стала пагалоскай канстатаваць адсутнасць доступу да патрэбнай інфармацыі. З-за недахопу грошай ускладніўся выезд у камандзіроўкі. Акрамя таго, на прадпрыемствах проста немагчыма праводзіць інавацыйную палітыку на высокім узроўні, бо з прычыны агульных эканамічных цяжкасцей найбольш перспектыўныя, але і навукаёмістыя праекты не могуць быць выкананы да канца, а рэалізуюцца, як правіла, прасцейшыя, аднак пры гэтым мы не маем магчымасці дасягнуць сусветнага ўзроўню. У канчатковым жа выніку сёння "на выхадзе" вельмі мала сапраўды канкурэнтаздольных айчынных распрацовак. Не дзіўна, што краіна па новых тэхналогіях і прыборах пачынае імкліва адставаць. А больш чым сціплае фінансаванне ў рамках дзяржаўных навукова-тэхнічных праграм і асобных праектаў вядзе да фактычнай гібелі многіх навуковых калектываў і канструктарскіх арганізацый ужо ў бягучым годзе.

**Праблемы, праблемы, праблемы... Здаецца, усё жыццё складаецца толькі з іх. І тым не менш нават самыя тугія вузлы павінны ў рэшце рэшт развязвацца. Было б жаданне. А магчымасці -- яны ёсць. Справа за арганізуючым пачаткам, што дазволіць развіць ініцыятыву прадпрымальных людзей. Іх у нашай дзяржаве дастаткова.**

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**"НАШАЙ ДОЛІ" 90 ГАДОЎ**

# ПЕРШАЯ ЛЕГАЛЬНАЯ

Сёлетні год вельмі багаты для нашай культуры на гістарычныя даты. У маі-траўні мы адзначалі дзевяностагоддзе беларускай выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца". Сёлета ж дзевяноста гадавіна з дня першага легальнага з'езда беларускіх настаўнікаў Міншчыны, які адбыўся ў 1906 годзе на радзіме народнага паэта Беларусі Якуба Коласа -- Мікалаеўшчыне.

Першага верасня старога стылю 1906 года выйшаў у Вільні і першы нумар першай легальнай беларускай газеты "Наша Доля". Гэта была вялікая падзея ў жыцці беларускага народа. Сёння няцяжка ўявіць сабе людскую радасць з нагоды гэтай падзеі...

...Раніца. Пятніца. Вільня...

Рамесны люд спяшаецца ў свае майстэрні, на заводы і фабрыкі. Раптам насустрач яму з'яўляюцца ўзрушаныя віленскія хлапчукі з напакаванымі, праз плячо, сумкамі з газетамі. Малюнак для віленцаў звыклы. Але што гэта?

Хлапчукі выгукваюць: "Купляйце першую беларускую газету!.. Купляйце першую беларускую газету. Каштуе ндарога -- пяць капеек. Друкуецца рускімі і польскімі літарамі". Хоць віленцы і спяшаліся, але інтрыга была звыш іхняй волі. Яны спыняліся, з хваляваннем, з невядомым раней пачуццём працягвалі хлапчукам свае запрацаваныя мазолістымі рукамі капейкі і геткім жа імклівым рухам бралі агалошаную хлапчукамі газету.

Тут жа кідалі на газету погляд, імгненна прачытвалі назву, звестку, для каго новая газета прызначалася, -- "для вясковага і местачковага рабочага народу", таропка гарталі яе і, як завараженыя, ішлі далей, але цяпер ужо ўся ўвага была на газеце.

Хлапчукі заінтрыгавалі газетай не толькі рамеснікаў. Зацікавіліся ёю і некаторыя панкі, чыноўнікі, а нават і жандары.

У той дзень толькі і было гаворкі пра беларускую газету.

Але гаварылі па-рознаму: працоўны люд успрыняў яе як сваю, родную, доўгачаканую. Янка Купала з нагоды выхаду першага нумара "Нашай Долі" пісаў:

**Гэй! Усе разам без патолі**
**Беларусы-дзеці!**
**Пашлём дзякуй**
**"Нашай Долі",**
**Роднenькай газеце.**
**Нам яе, радзімай, далей,**
**Не будзе ўжо браку,**
**Шмат гадкоў шчыра чакалі,**
**А цяпер -- ой, дзякуй!**
**Дзякуй тым, хто нашу мову,**
**Родную ўскрашае,**
**Хто цямноты**
**ў родным слову**
**Нашы распрашае.**
**Дзякуй! І хай "Наша Доля"**
**Часцей к нам прыходзе;**
**А з ёй праўда і з ёй воля**
**Зажыве ў народзе...**

Зусім іншыя пачуцці яна выклікала ў чыноўнікаў, у людзей у мундзірах. Гнеў і раздражненне: "Якая яшчэ беларуская газета! Ды яшчэ з такім зместам!" У першым нумары былі надрукаваныя дзве рэвалюцыйныя перадавіцы "Што будзе?", "Далоў расейскага цара", а таксама па-рэвалюцыйнаму палымяная Цётчына "Прысяга над крываваю разорамі". На другі ж дзень, у суботу, жандары цэлай зграяй уварваліся ў рэдакцыю і канфіскавалі непрададзеную частку тыражу "Нашай Долі", спрабілі над першым нумарам беларускай газеты свой чорны баль, а заадно і над беларускім друкаваным словам, якое, як вясновае руно, прагла жыцця.

Цэлы вечар паліцыя і жандары калашмацілі рэдакцыю. Але рэдактар-выдавец "Нашай Долі" Іван (Янук) Тукеркес быў, відаць, чалавек настойлівы і, мабыць, апантаны. Пакуль паліцыя ды жандары канфіскоўвалі першы нумар, ён разам з сваімі аднадумцамі не апусціў рукі, не ўпаў у адчай і роспач, а падрыхтаваў і выдаў другі нумар, у якім, між іншым, не прапусціў нагоды расказаць чытачам пра паліцэйскі разгул над "Нашай Доляй".

"Першы нумар "Нашай Долі" па прыказу Віленскага губернатара паліцыя канфіскавала, -- з болем на сэрцы паведамляла газета. -- Разышлася толькі палавіна -- пяць тысячаў, а пяць тысячаў паліцыя забрала, так што нічога схаваць не ўдалося, і дзеля таго выслаць першы нумар нікому не можам.

Просім усіх нашых чытацялёў пісаць да нас, пісаць аб усём, што дзеецца, аб крыўдах сваіх і радасцях, хто як умее...

Ведайце добра, што "Наша Доля" -- газета вёсковых людзей..."

У вялікіх пакутах прабівалі сабе шлях да чытача і наступныя нумары "Нашай Долі".

З усіх нумароў -- іх выйшла шэсць -- толькі другі рэдакцыя паспела разаслаць падпісчыкам. Астатнія былі ці арыштаваныя, ці канфіскаваныя. Паліцыя проста ганялася за беларускім друкаваным словам. Менавіта таму да нас дайшлі толькі лічаныя экземпляры некаторых нумароў.

Меўся і сёмы нумар. Але паспелі яго набраць толькі палову старонкі...

Кароткі, вельмі кароткі быў век першай беларускай газеты. Тым не менш яна пакінула яскравы след у гісторыі беларускай культуры, беларускай журналістыкі.

На яе старонках упершыню апрабавалі свой літаратурны голас такія волаты нашага прыгожага пісьменства, як Алаіза Пашкевіч (Цётка), Якуб Колас, Ядвігін Ш. ...

Але, мабыць, найбольшая заслуга "Нашай Долі" ў тым, што яна даказала усім незычліўцам, што наш народ усё жыццё прагнуў друкаванага выдання на роднай мове, з старонак якога на даступнай яму мове, на даступным яму слове гаварылася б з ім пра найважнейшыя жыццёвыя патрэбы.

**СПИСОКЪ**

уголовныхъ преслѣдованій возбужденныхъ въ теченіе Сентября сего 1906 года у Г. Прокурора Виленской Судебной Палаты противъ редакторовъ нижеозначенныхъ періодическихъ изданій выходящихъ въ г. Вильнѣ.

| НАЗВАНІЕ ИЗДАНІЙ. | Время выхода въ свѣтъ инкриминируемаго нумера изданія. | По какимъ статьямъ Уголовнаго Закона возбуждено судебное преслѣдованіе. | За напечатаніе какой именно статьи возбуждено уголовное преслѣдованіе. |
| --- | --- | --- | --- |
| 1. "Наша Доля" № 1 | 1 Сентября | п.п. 1 и 3 ст. 129 Угол. Улож. и 73 ст. Ценз. Уст. | 1) "Што будзе?" и 2) "Долоў Расейскаго Цара". |
| тоже № 3 | 20 Сентября | п.п. 1 и 3 ст. 129 Угол. Улож. | 1) "Старое лекарство", 2) [illegible] 3) "Напасць [illegible]" и 4) стихотвореніе "[illegible]". |
| тоже № 4 | 27 Сентября | п.п. 1 и 3 ст. 129 Угол. Улож. | Передовая статья отъ 27 Сентября содержащая въ себѣ сужденія о бывшей и будущей Государственной Думѣ. |
| "Echo" (Эхо) № 3 | 6 [illegible] | ст. 73 Ценз. Устава | Заметка содержащая въ себѣ свѣдѣнія о [illegible] Россійскаго Императорскаго Дома. |
| тоже № 11 | 7 Сентября | 1 и 2 п.п. ст. 129 Угол. Улож. | "Co warto i czego nie warto czytać." |

Менавіта такою газетаю і мелася быць "Наша Доля".

Архіў "Нашай Долі" не ацалеў. Ды дзе ж яму было ацалець, калі кожны нумар яе прайшоў праз такую калатнечу! Праўда, у чацвёртым нумары рэдакцыя паспела надрукаваць колькі водгукаў сваіх чытачоў. Але ж тыраж чацвёртага нумара быў цалкам канфіскаваны. Выхад у свет першай беларускай газеты не абышлі ўвагаю рускія, польскія, літоўскія, яўрэйскія віленскія газеты. Польскамоўная газета "Кур'ер Літоўскі" пісала:

"Трэба аддаць справядлівасць... відаць, што аўтары... ведаюць, як весці размову з вясковымі людзьмі. Тон, звароты, выбар тэматыкі -- усё гэта сведчыць пра разуменне запатрабаванняў народа, цесную сувязь з ім, чаго, на жаль, не змаглі да гэтага часу дабіцца нашы польскія выданні, прызначаныя для простых людзей".

(Заканчэнне на 4-й стар.).

*ДЫСКУСІЯ*

# ПАВЕЯЛА 37-м ГОДАМ

Паважаная рэдакцыя!

Дазвольце выказаць свой пункт гледжання на інтэрв'ю, якое даў на старонках газеты "Голас Радзімы" Пётр Петрыкаў, вядомы шырокай грамадскасці ў свой час, бо ён быў не толькі дырэктарам Інстытута гісторыі АН БССР, але і сакратаром парткома акадэміі.

Гэта асабістае. Наколькі я памятаю, Пётр Ціханавіч быў у той час вельмі дэмакратычны, вельмі сціплы чалавек. Гэта жарт, але гавораць так: "І сярод камуністаў былі добрыя людзі..."

Вядома і тое, што Пётр Ціханавіч спецыяліст па савецкай гісторыі, а гісторыя Беларусі налічвае стагоддзі, і некаторыя моманты ён, вядома, ведае не вельмі добра. І гэта нармальная з'ява, бо "нельзя объять необъятное".

Калі ж браць данае інтэрв'ю, то з многімі выказваннямі я поўнасцю згодны, асабліва калі гэта датычыцца гісторыі Расіі і адносін да рускіх. Чытаеш, да прыкладу, такое: рускія войскі, што занялі Полацк у час праўлення Івана Грознага, рабілі ў адносінах да мірных жыхароў своеасаблівы генацыд, але такое ж рабілася і ў адносінах да жыхароў рускіх гарадоў.

Гісторыя як грамадская навука павінна выхоўваць у грамадзян павагу не толькі да сваёй гісторыі, але, я не пабаюся сказаць гэтага слова, -- любоў і павагу да другіх народаў. І калі канцэнтраваць на негатыўных фактах сваю ўвагу, то гэта ж, як гавораць, да дабра не даводзіць.

Яскравым прыкладам з'яўляецца паказ адносін паміж рускай дзяржавай і Польшчай у гістарычнай навуцы. Як вядома, і палякі, і рускія не шкадуюць ядавітых стрэл у адносінах паміж дзвюма дзяржавамі. Дарэчы, усё гэта дало Уладзіміру Жырыноўскаму падставы сказаць, што палякі -- адвечныя ворагі беларусаў. Калі я гэта прачытаў, то быў вельмі абураны за такую заяву...

Але гісторыя як навука не павінна таксама паказваць усё ў ружовым колеры. Яна павінна мець розныя напрамкі і ў тым ліку процілеглыя афіцыйнай ідэалогіі. Як трапна заўважыў у свой час таварыш Сталін, "единомыслие может быть только на кладбище".

Наколькі я зразумеў, паважаны Пётр Ціханавіч прытрымліваецца "обратного", гаворачы другімі словамі, стаіць толькі на ўрадавых пазіцыях. Калі гэта так, дык развіцця навукі не будзе. Старажытныя грэчаскія філосафы неаднаразова ўказвалі, што толькі ў спрэчках нараджаецца ісціна. З'яўляючыся буйным вучоным, ён павінен ведаць і тое, што нават калі "господствовала марксистско-ленинская идеология", у савецкай гістарычнай навуцы былі розныя школы, розныя плыні і працы савецкіх вучоных, да прыкладу, Манфрэда ці Пашута не згубілі актуальнасці і да гэтага часу.

На жаль, я не чытаю работы гісторыкаў, якія працуюць у Інстытуце гісторыі, але не думаю, што яны прасякнуты антырускім настроем. Калі адкрыта гаварыць, то ніхто так ядавіта не выказваецца ў свой адрас, як самі рускія. Так, некаторыя лічаць, што прыняцце праваслаўнай веры прывяло Расію ў тупік.

Шмат гісторыкаў стаяць на супрацьлеглай пазіцыі Пятру Ціханавічу наконт Кіеўскай Русі. Яны не лічаць, што гэта была магутная дзяржава, княствы звязаны былі паміж сабой толькі ваеннай сілай і г. д.

Руская гістарычная навука адназначна "осудила" тры падзелы Польшчы, больш таго, некаторыя вучоныя рэзка выступаюць супраць верша Пушкіна, які быў прысвечаны польскаму народу, Польшчы, за яго падтрымку царскіх войскаў, якія падаўлялі паўстанне ў Варшаве ў 30-я гады XIX стагоддзя.

Я абсалютна не згодны са словамі Юрыя Нагібіна наконт Расіі, але яны надрукаваны ў часопісе "Знамя" (N 6, 1996 год): "Нет, в России в корне ничего не может измениться к лучшему, там всегда будет неопределенность, зыбь, болото, вспышки дурных страстей. Это в лучшем случае. В худшем -- фашизм". Але ж такое надрукавана, і ніхто не лемантуе, нават "Литературная Россия", якая вельмі "блюдет все русское", не адрэагавала.

Вядома, што Пётр Ціханавіч -- удзельнік Айчыннай вайны. І ён добра ведае, што нашы салдаты, камандзіры ваявалі не толькі супраць немцаў і іх саюзнікаў, але і супраць так званай "Русской освободительной Армии", якой камандаваў былы савецкі генерал Уласаў. Дарэчы, час ад часу выходзяць не толькі артыкулы, але і "толстые книжки", дзе спрабуюць апраўдаць генерала-здрадніка. Дык вось, гэта армія мела тыя сімвалы, што мела дарэвалюцыйная Расія, і зараз яны, маю на ўвазе сімвалы, з'яўляюцца афіцыйнымі ў Расіі... Вядомыя словы Сталіна: "Гитлеровцы приходят и уходят, а немецкий народ остается". Калі іх перафразіраваць, то выйдзе так: "уласаўцы прыходзяць і адыходзяць, а рускі народ застаецца".

Не ведаю, як сябе адчувае Пётр Ціханавіч, калі ён бачыць на фуражках сучасных рускіх афіцэраў двухгаловага арла, супраць якога змагаўся наш савецкі народ... У тым ліку і сам ён.

У гэтым годзе ў час адпачынку ў Кіславодску я быў непрыемна ўражаны тым, калі мне ўзбекі гаварылі, што беларусы ўзялі поўнасцю мусульманскі сцяг, а ён, як вядома, складаецца з двух колераў -- зялёнага і чырвонага... і што Беларусь, калі зыходзіць з гэтага, "ісламская дзяржава".

Асабліва ўразілі мяне апошнія словы Пятра Ціханавіча наконт таго, што Інстытут гісторыі ўвесь час закладвае міну пад дзяржаўную палітыку Рэспублікі Беларусь. Не буду поўнасцю аспрэчваць гэтыя словы, але ж ад іх павеяла 37-м годам...

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**

Манчагорск
Мурманскай вобласці.

# ПЕРШАЯ ЛЕГАЛЬНАЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Шчыра адгукалася пра "Нашу Долю" і мінская рускамоўная газета "Голос Провинции":

"Першы нумар першай беларускай газеты, якая прызначаецца для простага народа і выдаецца ў Вільні гуртком беларускай інтэлігенцыі, да якога належаць многія мінчане, робіць вельмі добрае ўражанне".

Віленскае "Свободное Слово" называла "Нашу Долю" выданнем, прысвечаным "інтарэсам рабочага класа".

Лёс першай легальнай беларускай газеты скончыўся судом над яе рэдактарам, дваццаціпяцігадовым маладым чалавекам Іванам Тукеркесам...

Вядомы беларускі гісторык Міхась Біч, разважаючы пра лёс беларускага друкаванага слова наогул і, у прыватнасці, пра лёс "Нашай Долі", лёс якой параўноўваюць з лёсам маланкі, -- "зіхатнула і знікла дзесьці" -- пісаў: "Дзіўны твой гістарычны лёс, беларускае друкаванае слова! Адным з першых у свеце прабілася Ты праз цемру сярэднявечча, падхапіўшы на свае крылы выдатныя творы сусветнай культуры -- у тым ліку думкі, мары і справы вялікіх беларусаў эпохі Адраджэння, Ты панесла іх па шырокіх прасторах славянскай зямлі, каб разгарнуць тую цемру, якая сляпіла людзям вочы, засланяла ім шлях наперад. Больш чым пяцьсот пяцьдзесят гадоў таму назад выправіў цябе ў свет слаўны доктар Францыск Скарына. Крылы твае ўзмацнялі, палётам тваім кіравалі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Пятрусь Мсціславец, Лаўрэн Зізань.

Дзякуючы ім, Ты ўвайшло ў скарбніцу сусветнай культуры. А потым здарылася нешта недарэчнае. Крылы твае аслабелі. Ты з'яўлялася ўсё радзей і радзей і ўрэшце зусім знікла, ды так надоўга, што сам народ, які даў табе жыццё, забыўся, што ты некалі нават было. Гэтак -- на мяжы жыцця і смерці -- прайшло каля двух стагоддзяў.

Аде народ не памёр... Ён толькі на доўгі час выпаў з арбіты сусветнай цывілізацыі. У полымі рэвалюцыі адрадзілася і беларускае друкаванае слова".

Заснавальнікі газеты абдумалі сваё выданне да драбніц: памер, фармат, нават шрыфт. Яны знарок абралі буйны, каб газету мог чытаць кожны: і пісьменны, і малапісьменны, і той, хто, можа, захоча навучыцца спазнаць чытанне. Нас не можа не ўразіць прастата сінтаксісу "Нашай Долі", лексіка, натуральная непасрэднасць інтанацый. А пісалася ж гэта ў тую пару, калі яшчэ не было беларускай граматыкі, калі літаратурная мова была неўнармаваная і пісалася людзьмі асвечанымі праз рускую і польскую грамату. Але як яны глыбока ведалі жывое беларускае слова! Як яны адчувалі яго, як умела абыходзіліся з ім: стараліся пісаць так, каб кропка ў кропку патрапіць у жывую гаворку, каб друкаванае слова нічым не рознілася ад гутарковага, каб таму, хто меўся чытаць гэтае пісьмо, здавалася, што яно вырвалася з яго набалелай душы. І, як бачым, журналістам "Нашай Долі" гэта ўдавалася.

Выхаду газеты папярэднічала і вялікая арганізатарская работа. Трэба ж было не толькі стварыць газету, сабраць рэдакцыю, здабыць права на яе выданне, але і знайсці свайго чытача, наладзіць яе пашырэнне, перасылку.

Выдавалася ж газета не на ўзвей вецер, а з разлікам і на якіхсьці канкрэтных асоб.

Першы нумар "Нашай Долі" выйшаў накладам дзесяць тысяч экземпляраў: палова -- лацінкаю, палова -- кірыліцай. Гэта быў даволі вялікі тыраж для таго часу. У 1991 годзе выдавецтва "Навука і тэхніка", турбуючыся, што ў ніводнай бібліятэцы свету няма цэлага камплекта "Нашай Долі", перавыдала першую легальную беларускую газету факсімільна. А неўзабаве пасля гэтага ў Мінску паўстала і аднайменная газета. Праўда, цяперашняя "Наша Доля" мае крыху іншы накірунак, але які б ні быў гэты накірунак, нашу долю новая газета не абмінае. На тое яна і "Наша Доля". Пра нашу долю распавядаць вымагае сама назва.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**



М. В. Д.
Виленскій Инспекторъ по дѣламъ печати.
15 Января 1907. № 18.
г. Вильна.

№ 872 / 93. Въ Главное Управленіе по дѣламъ печати.

Прокуроръ Виленской Судебной Палаты отношеніемъ отъ 12 текущаго Января за № 127 сообщилъ мнѣ, что Виленская Судебная Палата, разсмотрѣвъ въ судебномъ засѣданіи 11 сего Января дѣло о редакторѣ-издателѣ издающейся въ гор. Вильнѣ, на бѣлорусскомъ языкѣ, газеты "Наша Доля" Иванѣ Адамовичѣ Тукеркесѣ, обвиняемомъ по 1 и 2 п. 129 ст. Угол. Улож. и 6 ст. VIII отд. времен. правилъ о повремен. изданіяхъ 24 Ноября 1905 г. приговорила: подсудимаго, редактора-издателя газеты "Наша Доля", мѣщанина г. Вильны Ивана Адамова Тукеркеса 25 лѣтъ, заключить въ крѣпость на одинъ годъ, съ воспрещеніемъ ему принимать на себя званіе редактора или издателя какого бы то ни было повременнаго изданія въ теченіе трехъ лѣтъ; самое же изданіе газеты "Наша Доля" прекратить навсегда.

О вышеизложенномъ имѣю честь донести Главному Управленію по дѣламъ печати.

И. о. Инспектора: [signature]

**НА ЗДЫМКАХ: аркуш з справы аб узбуджэнні крымінальнага праследу супраць газеты "Наша Доля"(на 3-й стар); пракурорскі прысуд рэдактару "Нашай Долі" Івану Тукеркесу.**

*З фондаў Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы. Рэпрадуктуецца ўпершыню.*



**Мікалай Баліцэвіч нарадзіўся ў вёсцы Лукава, тут скончыў школу і вось ужо адзінаццаць гадоў узначальвае Лукаўскі сельскі Савет Маларыцкага раёна. Ад'язджаў адсюль толькі на вучобу ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Калі ж вырашыў, што для работы ведаў малавата, скончыў яшчэ і Маскоўскі завочны юрыдычны інстытут.**

**А памагала Мікалаю Васільевічу ў вучобе хатняя бібліятэка, якую ён пачаў збіраць яшчэ ў школьныя гады. Зараз яна налічвае больш за дзве тысячы кніг, якімі карыстаюцца таксама жонка Галіна Уладзіміраўна -- настаўніца беларускай мовы і літаратуры ў мясцовай школе і дачка Людміла (на здымку). Штомесяц Баліцэвічы трацяць на кнігі амаль палову свайго бюджэту.**





**У час апошняй сваёй камандзіроўкі ў Беласток даведаўся я, што недалёка тут працуе таленавіты мастак з Беларусі -- завяршае іканастас у праваслаўным саборы. Як высветлілася, гэта мой даўні і добры знаёмы Саша Лось. Я яго ведаю яшчэ па яго дыпломнай рабоце ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Менавіта яна паклала пачатак адраджэнню беларускай батлейкі.**

**Наша сустрэча адбылася ў мястэчку Чарна Беластоцка ў царкве Святых Жон Міраносіц. Аляксандр расказаў, што яго даўно цікавілі магчымасць і шляхі фарміравання асобы чалавека і пазнанне свету праз Боскае ўсведамленне, праз філасофію багаслоўя. Гэта і прывяло яго да працы над іконамі, да стварэння інтэр'ераў цэркваў. Здавалася б, што можа мастак, абмежаваны строгімі рамкамі царкоўных канонаў! Аказваецца, вельмі многае. Калі, вядома, ён не проста піша копіі, калі ў яго працы ёсць творчы пачатак, які дазваляе стварыць іканастас, што адпавядае стылю і архітэктуры царквы. Акрамя дасканалых патрабаванняў канонаў, трэба мець глыбокія гістарычныя веды, добра валодаць тэхнікай іканапісу. І, вядома, ведаць шматвяковыя традыцыі іканапісных школ, у чый бясцэнны вопыт Аляксандр Лось уносіць сваю сціплую лепту.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: царква Святых Жон Міраносіц у мястэчку Чарна Беластоцка (Беластоцкае ваяводства); мастак Аляксандр ЛОСЬ.**

# ПЫТАННІ БЫЛІ І ЗАСТАЮЦЦА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У сярэдзіне кастрычніка 1939 года ўрад СССР вырашыў зрабіць абмен з Германіяй ваеннапалоннымі і інтэрніраванымі. Былі вызначаны пункты перадачы: адзін у Беларусі і два на Украіне. Германія прымала ваеннапалонных, "калі яны жылі ў нямецкай сферы ўплыву". Усяго на тэрыторыю этнічнай Польшчы было рэпатрыіравана 42 492 чалавекі, "якія выказалі жаданне выехаць", як сказана ў савецкай зводцы 1941 года. Таму што калі пачалася адпраўка інтэрніраваных да месца жыхарства, многія адмовіліся ехаць пад уладу нямецка-фашысцкіх акупантаў.

19 лістапада 1939 года з'явілася ўказанне Берыі аб сканцэнтраванні пакінутых (ці не прынятых Германіяй?) афіцэраў у Старабельскім, Асташкаўскім і Казельскім лагерах.

У Старабельску Варашылаўградскай вобласці ў былым манастыры і шэрагу будынкаў у горадзе, дзе жылі палкоўнікі і генералы, на 14 кастрычніка 1939 года было 7 045 чалавек: 4 813 радавых, 2 232 афіцэры (калі лагер стаў афіцэрскім, колькасць афіцэраў павялічылася да 3 974 чалавек). Змешчаныя ў гэты лагер актыўна і арганізавана патрабавалі ад савецкіх уладаў выканання міжнародных канвенцый аб ваеннапалоных і інтэрніраваных і г.д. Аднак органы НКУС "раскрылі" там тайную антысавецка-нацыяналістычную арганізацыю.

Асташкаўскі лагер, размешчаны на адным з астравоў возера Селігер (востраў Столбны, былы манастыр Нілава Пустынь), функцыянаваў з 28 верасня 1939 года. На 10 кастрычніка 1939 года ў Нілавай Пустыні было 184 афіцэры, 6 938 радавых з "савецкіх ваяводстваў" і 1 913 -- з этнічнай Польшчы. Затым у Асташкаве сабралі выключна чыноў паліцыі, жандармерыі, карпусы пагранічнай варты, асаднікаў і г.д. На 1 снежня 1939 года ў лагеры налічвалася 5 963 чалавекі, што паходзілі з этнічнай Польшчы -- 3 848, з заходніх абласцей СССР і Літвы адпаведна 1 919 і 196.

Казельскі лагер размяшчаўся за дзвесце кіламетраў ад Смаленска. Да 1 лістапада 1939 года Казельск-1 быў змешаным перасылачным лагерам на 8 843 чалавекі. Прыкладна 6,2 тысячы чалавек утрымліваліся ў асноўным лагеры, 2,6 тысячы -- у філіяле, размешчаным у Опцінай Пустыні.

Пасля адпраўкі салдацкіх эшалонаў на Захад у лагер сталі прывозіць афіцэраў. 1 лістапада прыйшоў эшалон з дзвюма тысячамі чалавек, 3 лістапада прыбыло паўтары тысячы. Лагер стаў "чыста афіцэрскім". У сувязі з тым, што лагеры былі перагружаны, нарадзілася чарговая прапанова кіраўніцтва НКУС аб "далейшай разгрузцы лагераў". Для гэтага ў лютым 1940 года было прынята рашэнне адпусціць усіх асоб, старэйшых за 60 гадоў, усіх хворых, інвалідаў, усіх афіцэраў запасу з савецкіх абласцей -- у мірным жыцці аграномаў, урачоў, настаўнікаў, інжынераў і тэхнікаў (усяго 700--800 чалавек). У гэты час і адбываецца завязка будучай трагедыі.

Звернемся да дакумента -- пісьма Берыі да Сталіна.

"ЦК ВКП(б) товарищу Сталину.

В лагерях для военнопленных НКВД СССР и тюрьмах западных областей Украины и Белоруссии в настоящее время содержится большое количество бывших офицеров польской армии, бывших работников польской полиции и разведывательных органов, членов польских националистических к-р партий, участников скрытых к-р повстанческих организаций, перебежчиков и др. Они являются заклятыми врагами советской власти, преисполненными ненависти к советскому строю.

Военнопленные офицеры и полицейские, находясь в лагерях, пытаются продолжать к-р работу, ведут антисоветскую агитацию. Каждый из них только и ждет освобождения, чтобы иметь возможность активно включиться в борьбу против советской власти.

Органами НКВД в западных областях Украины и Белоруссии вскрыт ряд к-р повстанческих организаций. Во всех этих к-р организациях активную руководящую роль играли бывшие офицеры бывшей польской армии, бывшие полицейские и жандармы...

В лагерях для военнопленных содержится всего (не считая солдат и унтерофицерского состава) -- 14 736 бывших офицеров, осадников и разведчиков...

В тюрьмах западных областей Украины и Белоруссии всего содержится 18 632 арестованных (из них 10 685 поляки), в том числе:

Бывших разведчиков и жандармов — 5 141
Бывших офицеров -- 1 207
Бывших помещиков, чиновников -- 347
Членов различных к-р и повстанческих организаций и разного к-р элемента -- 5 345
Перебежчиков -- 6 127

Исходя из того, что все они являются закоренелыми, неисправимыми врагами советской власти, НКВД СССР считает необходимым..." (Якія меры неабходна прыняць, мы даведаемся з рашэння Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1940 года. -- **І.К.**).

Недаступнасць дакументаў, што тычацца савецка-германскіх перагавораў адносна польскіх праблем, не дае магчымасці асвятліць разглядаемыя праблемы ў гэтым плане. Тым не менш да нейкага пагаднення бакі прыйшлі. З сярэдзіны красавіка 1940 года аднавілася перасяленне бежанцаў і немцаў.

Мы не ведаем даты нарады ў Кракаве, таму не можам супаставіць паслядоўнасць падзей, што адбываліся ў Савецкім Саюзе і ў лагерах інтэрніраваных. Па дакументах, а больш правільна, па паслядоўнасці падзей можна меркаваць, што ў сакавіку "ў вярхах" СССР вырашалася пытанне аб далейшым існаванні лагераў.

У 1940 годзе рушылі афіцэрскія лагеры. З Казельска першы эшалон выйшаў 3 красавіка, другі -- 6 красавіка, са Старабельска першы -- 5 красавіка 1940 года.

Зусім нядаўна стала вядома, што санкцыю на знішчэнне тысяч ні ў чым невінаватых людзей дало Палітбюро ЦК ВКП(б). Звернемся да гэтага дакумента.

"ВСЕСОЮЗНАЯ КОММУНИСТИЧЕСКАЯ ПАРТИЯ (большевиков)

N П 13/144

*5 марта 1940 г.* тов. Берия

44. Вопрос НКВД СССР

I. Предложить НКВД СССР:

1/ Дела о находящихся в лагерях для военнопленных 14 700 человек бывших польских офицеров, чиновников, помещиков, полицейских, разведчиков, жандармов, осадников и тюремщиков,

2/ а также дела об арестованных и находящихся в тюрьмах западных областей Украины и Белоруссии в количестве 11 000 человек различных к-р шпионских и диверсионных организаций, бывших помещиков, фабрикантов, бывших польских офицеров, чиновников и перебежчиков -- рассмотреть в особом порядке, с применением к ним высшей меры наказания -- расстрела.

II. Рассмотрение дел провести без вызова арестованных и без предъявления обвинения, постановления об окончании следствия и обвинительного заключения -- в следующем порядке:

а/ на лиц, находящихся в лагерях военнопленных -- по справкам, представляемым Управлением по делам военнопленных НКВД СССР,

а/ на лиц, арестованных -- по справкам из дел; представляемым НКВД УССР и НКВД БССР.

III. Рассмотрение дел и вынесение решения возложить на тройку, в составе т.т.Меркулова, Кобулова и Баштакова (начальник 1-го Спецотдела НКВД СССР)".

Непасрэдна прыгавор аб расстрэле больш 20 тысяч афіцэраў польскай арміі быў вынесены Асобай нарадай НКУС СССР, на падставе рашэння Палітбюро ЦК ВКП(б) у красавіку 1940 года.

Следства, праведзенае ў 1990-1992 гадах следчай групай Галоўнай ваеннай пракуратуры, выявіла, што не толькі ў Катыні спачываюць афіцэры польскай арміі. Зрэшты, афіцэры -- паняцце занадта агульнае, якое не дае поўнага ўяўлення аб тым, хто быў прызначаны да ліквідацыі. Дзве трэція інтэрніраваных складалі афіцэры запасу: інжынеры, настаўнікі, адвакаты, урачы, выкладчыкі, ліцэісты, студэнты, свяшчэннікі (капеланы). Генерал Уладзіслаў Андэрс пісаў: "Масква ажыццяўляла план абезгалоўлівання грамадства". Калі ўлічыць, што ў гэты ж час з Польшчы дэпартаваліся сем'і асуджаных на смерць, сумненняў не застаецца: знішчаўся цвет нацыі.

Прычым у Катыні пахаваны толькі тыя афіцэры, якія знаходзіліся ў Казельскім лагеры. Дзе закончыўся апошні шлях іх таварышаў з лагераў у Старабельску і Асташкаве, не было вядома да нядаўняга часу. Сёння выяўлены і месцы іх пакарання, і месцы пахавання -- лесапаркавая зона ў Харкаве і пасёлак Меднае ў Цвярской вобласці. Ёсць падставы меркаваць, што частка з іх была расстраляна ў Курапатах, а таксама ў раёне станцыі Тайга (цяпер Кемераўская вобласць Расійскай Федэрацыі).

Завяршэнне справы па знішчэнню больш 20 тысяч чалавек адзначылі ў Маскве. 26 кастрычніка 1940 года з'явіўся сакрэтны загад за подпісам Берыі аб узнагароджанні работнікаў НКУС за паспяховае выкананне спецыяльнага задання месячным акладам. У спісе значылася 143 прозвішчы. Афіцэры дзяржбяспекі, наглядчыкі, вахцёры, шафёры.

Узнагарода заслужаная. "Мы не спраўляліся працаваць, спалі ўсяго па тры гадзіны", -- сведчыў у сваіх паказаннях наш зямляк Мітрафан Сырамятнікаў, старшы па корпусу харкаўскай унутранай турмы НКУС. Яму можна верыць: ён і іншыя яго "калегі" капалі магілы, грузілі трупы на машыны, замотвалі шынялямі галовы забітых, каб не кроватачылі...

У лясных угоддзях, што належалі харкаўскаму НКУС, выкопвалі вялікія ямы -- з тым разлікам, каб у іх маглі ўехаць заднім ходам крытыя грузавікі. Не адзін год сюды звозілі трупы расстраляных у падвалах НКУС. Аднак, калі да гэтага часу дзённай "нагрузкай" было да дзесятка трупаў, то ў канцы красавіка 1940 года сталі прывозіць ледзь ці не поўныя кузавы...

Пры правядзенні эксгумацыі выявілі боты і галошы з маркіроўкай "Чырвонага трохвугольніка". Гэта -- нашы. Відаць, перад расстрэлам людзей прымушалі распранацца дагала. Знішчэнне суайчыннікаў вялося прадумана: каб не пакідаць слядоў. Але вось і галошы ператварыліся ў рэчавыя доказы...

Польскіх жа афіцэраў, відаць, спяшаліся забіць хутчэй -- толькі гэтым можна растлумачыць тое, што афіцэраў не прымушалі распранацца. Знойдзена мноства прастрэленых чэрапаў са слядамі куль і косці ног. Крыміналісты тлумачаць гэта так. Пасля зачытвання прыгавору многія з тых, каго прывозілі жывымі, спрабавалі ўцячы. Іх касілі з кулямёта па нагах, а потым ужо дабівалі з наганаў.

Пасля падзей 1940-га года прайшло амаль 20 гадоў, і з'явіўся адзін вельмі важны для следства дакумент, змест якога стаў вядомы зусім нядаўна. Прыводзім фрагменты з яго:

**ОСОБАЯ ПАПКА**

**Совершенно секретно**

Товарищу Хрущеву Н.С.

В комитете государственной безопасности при Совете Министров СССР с 1940 года хранятся учетные дела и другие материалы на расстрелянных в том же году пленных и интернированных офицеров, жандармов, полицейских, осадников, помещиков и т.п. лиц бывшей буржуазной Польши. Всего по решениям специальной тройки НКВД СССР было расстреляно 21 857 человек, из них: в Катынском лесу (Смоленская область) 4 421 человек, в Старобельском лагере близ Харькова 3 820 человек, в Осташковском лагере (Калининская область) 6 311 человек и 7 305 были расстреляны в других лагерях и тюрьмах Западной Украины и Западной Белоруссии...

Для советских органов все эти дела не представляют ни оперативного интереса, ни исторической ценности. Вряд ли они могут представлять действительный интерес для наших польских друзей. Наоборот, какая-либо непредвиденная случайность может привести к расконспирации проведенной операции, со всеми нежелательными для нашего государства последствиями...

Исходя из изложенного представляется целесообразным уничтожить все учетные дела на лиц, расстрелянных в 1940 году по названной выше операции...

Председатель КГБ
при СМ СССР
*3 марта 1959 года* А.ШЕЛЕПИН

Да гэтага часу застаецца нявыяўленай прамая сувязь паміж ліквідацыяй лагераў і праблемай дэпартацыі, комплексам савецка-германскіх адносін перадваенных гадоў. Адказ на гэтыя і іншыя пытанні, магчыма, дазволіць даць работа польскай камісіі.

Перамены ў свеце, прызнанне прыярытэту агульначалавечых каштоўнасцей стварае ўмовы для сур'ёзнага гістарычнага і прававога даследавання справы аб афіцэрах польскай арміі з мэтай пераадолення тых негатыўных напластаванняў, якія нам пакінула гісторыя. Да змрочных старонак гісторыі адносіцца і лёс інтэрніраваных у СССР афіцэраў польскай арміі.

Сказаць праўду пра іх лёс неабходна для таго, каб не толькі ліквідаваць яшчэ адну "белую пляму" найноўшай гісторыі, але і зняць палітычны аспект гэтай праблемы.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

# АЛЯКСАНДРА САКОВІЧ (ІНА РЫТАР). ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ

Заканчэнне.
Пачатак у NN 34--35.

Не можа зразумець малая дзяўчынка ("Сама"), чаму сярод ночы ў пакоі ярка гарыць святло, у рэчах рыюцца чужыя дзядзькі, а на канапе моўчкі сядзяць тата і мама, чаму разам з дзядзькамі пайшоў тата і мама горка плакала... Не давяраюць адзін аднаму закаханыя Рыма і Даніла ("На захад"), Кастусь і Марыся ("З кім яна?"), бо вакол пануе падазронасць, даносы, вынішчаецца любоў да бацькаўшчыны, яе гісторыі, славутых людзей, арыштоўваюцца нават тыя, у каго на сцяне вісіць партрэт "сярэднявяковага схаластыка" Францішка Скарыны, хто цікавіцца рознымі Сапегамі -- "злоснымі ворагамі пралетарыяту", "гнілой старынай", непатрэбнай камсамольцам-атэістам. Маладая дзяўчына Наталля ("Шчаслівая"), арыштаваная за прыналежнасць да БНР, выпушчана з ГУЛАГу дамоў паміраць.

І памірае яна шчаслівая, што пабачыла радзіму, маці і каханага чалавека, які выпадкова даведаўся, па якой прычыне яе вызвалілі з канцлагера...

Яшчэ больш складаныя, невырашальныя праблемы паўсталі перад героямі Аляксандры Саковіч, калі пачалася вайна. Многія з іх імкнуцца разабрацца ў сваім становішчы, зразумець, хто яны, якое месца належыць іх Бацькаўшчыне паміж ваюючымі Расіяй, Германіяй, Польшчай. Беларусь зноў апынулася на ваенных перакрыжаваннях моцных дзяржаў, зноў нішчыцца, руйнуецца яе гаспадарка, гінуць людзі. Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца дыялог паміж героямі апавядання "З кім яна?" Марыся дзеліцца з Кастусём сваім горам, выказвае набалелыя думкі, просіць парады, што рабіць, як жыць далей у гэтым складаным, супярэчлівым свеце: "Памятаеш, калі ў сорак трэцім годзе я прыйшла ў Нясвіж? Я прыйшла са зьмярцвелым сэрцам. На маіх вачох немцы спалілі жывымі ў хаце маю маці й чатырох братоў. Старэйшыя браты былі партызанамі. У той дзень яны прыйшлі з лесу наведаць нас. Відаць, хтось паведаміў немцаў. Увечары яны акружылі хату. Выпадкам на той час я была ў суседзяў. Я бачыла праз вакно, як нашу хату абклалі саломаю, як падпалілі яе, як закалыхалася й шуганула полымя да страхі. Я ведала, што ў хаце гараць мае браты й маці. Я чула іхнія крыкі й не магла бегчы ім на дапамогу. А я любіла іх. Мы расьлі сіротамі, без бацькі... Тады мне лягчэй было памерці, чымся жыць. Я нікога больш не мела. Нікога не любіла... Вось такою я прыйшла ў Нясвіж, у семінарыю. І там спаткала Ліду Макарэвіч. Бацька Ліды быў войтам. Ейную сям'ю выбілі партызаны. Але нашае гора было адно... У семінарыі я знайшла йзноў сваю сям'ю. Аднойчы я спытала ў дырэктара, старога Дунца, чаму ён прыняў мяне ў семінарыю. "Марыся, -- сказаў ён, -- памятай усё жыццё, што мы з аднэй сям'і. Досыць нас дзеляць і б'юць чужынцы. Мы, беларусы, мусім ратаваць жыццё кожнага з нас".

Калі прыйшлі Саветы, Ліду і Дунца выслалі ў Сібір. За што? За што яны мусяць пакутаваць?

Марыся сціхла. Маўчаў і Кастусь. Ейныя апошнія словы ўскалыхнулі думкі аб бацьку й маці. Сэрца балела, бо ён ведаў, што яны, старыя й бездапаможныя, выкінутыя ў далёкую халодную чужыну на пакуты й знішчэнне..." ("У пошуках праўды").

Думкі старога, мудрага дырэктара настаўніцкай семінарыі аб еднасці, падтрымцы беларусамі адзін аднаго сугучныя зместу і духу апавядання "Кожнаму сваё", як і наогул усёй творчасці Аляксандры Саковіч.

У аповесці з трапнай, сімвалічнай назвай "Паміж Сцылай і Харыбдай" пісьменніца праз лёс маладой сям'і разгортвае падзеі, духоўны стан беларускага грамадства ў самы пік сталінскіх рэпрэсій і вайны, параўноўваючы дзве таталітарныя сістэмы, паказваючы, якія незлічоныя ахвяры, бедствы яны прынеслі людзям, колькіх мільёнаў лепшых чалавечых жыццяў каштавалі гэтыя эксперыменты.

Падобныя праблемы раскрываюцца і ў іншых празаічных творах пісьменнікаў-эмігрантаў ("Кітай, Сібір, Масква" Язэпа Германовіча, "Раман Корзюк", "І той дзень надыйшоў" Масея Сяднёва, "Змагарныя дарогі" Кастуся Акулы), аднак у Аляксандры Саковіч яны, "прапушчаныя" праз думкі, пачуцці, перажыванні жанчыны-маці, безабаронны лёс асірочаных дзяцей, апісаныя жанчынай-пісьменніцай, зведаўшай усе цяжкія перыпетыі змрочнага часу, успрымаюцца асабліва востра і балюча. Галоўная гераіня аповесці "Паміж Сцылай і Харыбдай" Ганна ўвесь час знаходзіцца ў стане палемікі з існуючым ладам, не можа зразумець, як і Марыся ("З кім яна?"), чаму духоўна і фізічна вынішчаецца столькі нявінных людзей, чаму столькі сялянскіх працавітых сем'яў, творчай інтэлігенцыі выслана на Салаўкі, Калыму, пад Котлас, Варкуту, дзе загінула не адна тысяча беларускіх дзяцей, загнаных разам з раскулачанымі бацькамі ў тайгу на галодную смерць. Дарэчы, у сучаснай беларускай прозе толькі Сяргей Грахоўскі, Васіль Быкаў, Ларыса Геніюш пачалі на пачатку 90-х раскрываць гэтыя невыносна цяжкія праблемы, пра якія свабодна пісалі пісьменнікі-эмігранты, жывучы ў вольным свеце. Аляксандра Саковіч у "Сцыле і Харыбдзе" паралельна з лёсам Ганны, яе малога сына паказвае таксама зламаныя лёсы многіх вязняў савецкіх канцлагераў і асабліва трагічны лёс Ганнінага мужа Конрада. Выхаваны ва ўмовах Заходняй Беларусі, дзе палякі імкнуліся да забароны ўсяго беларускага, што абражала і прыніжала нацыянальную годнасць беларусаў, Конрад перайшоў у Савецкую Беларусь з верай у лепшую будучыню Бацькаўшчыны. Апантана і сумленна працаваў, займаўся навуковымі даследаваннямі, меў тэхнічныя вынаходніцтвы, імкнуўся быць па-за палітыкай, не падтрымліваў крытычных меркаванняў жонкі, якая вырасла пры савецкай уладзе, супакойваў яе страхі, калі яна выказвала апасенні, што і яго могуць арыштаваць, назваць шкоднікам, польскім шпіёнам, бо ён прыйшоў з таго, заходняга боку. Прадбачанні Ганны спраўдзіліся. Рэпрэсіраваны ў 1937 годзе, Конрад, даведзены допытамі і катаваннямі да цяжкага псіхічнага стану, падпісаў усе паклёпніцкія пратаколы, прыдуманыя следчым. "Той страшны, беспрасветны час ніколі не забудзецца. І цяпер у вачох Ганны стаяць даўгія маўклівыя чэргі жанчынаў, з якімі яна цэлымі днямі прастойвала перад брамамі турмаў, каб нарэшце, калі ейная чарга даходзіла да вакенца, даведацца: "Конрада Зяневіча ў сьпісе няма".

Тры месяцы дарэмнага шуканьня. Тады дзень удачы: "Ёсьць у сьпісе". "Магу я яму што-небудзь перадаць?" "Можаце, 50 рублёў". "Сёньня?", "Не, у дзень перадачаў на літару "З".

У дазволены дзень Ганна з двухгадовым Лявончыкам на руках прынесла грошы. Чарга перад турмою на цэлы блок, але жанчыны прапусьцілі яе зь дзіцем наперад без чаргі. Ніводная не запярэчыла. Як звычайна, у гэтых чэргах усе стаялі маўкліва, без усьмешкі на пакутлівых тварах. Пакуль Ганна даставала грошы із торбачкі перад вакенцам, спрытны Лявончык перахіліўся зь ейных рук, усунуў галаву ў самае вакенца ў запытаўся: "Тата?" Малы хваравіта сумаваў па бацьку. Шукаў яго ўсюды, заглядаў у твары мужчынаў на вуліцы, у крамах..." А бацька ўжо апынуўся на катаржнай Калыме. Адбыў там чатыры гады і, каб застацца жывым, непакалечаным, цярпеў здзекі, ганьбаванні ад садыстаў-следчых, якім было дазволена ўжываць "фізічныя сродкі ўздзеяння", ад канваіраў, вартавых, крымінальнікаў, -- рэпрэсіўная машына дзейнічала адладжана па вынішчэнню "ворагаў народа".

Конраду на Калыме заставалася толькі маліцца, каб даў Бог пабачыць сына, жонку, блізкіх люзей. "Маліўся, калі гналі ў цемені сцюдзёнага калымскага раньня на працу ў капальню; маліўся, калі праз дванаццаць гадзінаў, ізноў у цемені, гналі ў лагер. Маліўся, каб не зваліцца ад знясілення на дарозе, каб жывым дайсці да нараў". Яму "давялося зведаць нялюдскі гнёт і зверства, а з імі -- страх за долю Ганны і Лявончыка, паніжэнне чалавечае годнасці, безнадзейнасць. Перажытае ў лёхах НКВД, у лагеры, у капальнях золата на Калыме з душы не выпаліць, не сцерці..."

І, мусіць, Бог пачуў ягоныя малітвы. Прывезены ў Мінск літаральна ў першыя дні вайны на новыя дазнанні, Конрад выратаваўся, калі калона зняволеных, якую гналі з Мінскай турмы па Магілёўскай дарозе, трапіла пад бамбёжку нямецкіх самалётаў. Але, вызваліўшыся ад "сваіх", ён з многімі сябрамі па няшчасцю апынуўся ў нямецкім палоне, паміж Сцылай і Харыбдай. І толькі цяпер зразумеў, што дзве магутныя варожыя сілы ўцягнулі яго, як і ўсю Бацькаўшчыну, у вір свайго змагання. І ў выніку -- знявечаныя людзі, разбураная дашчэнту краіна. Але самае трагічнае, што і на адным (акупіраваным), і на другім баку гінулі лепшыя людзі ці, каб выжыць, прыстасоўваліся, здраджвалі нацыянальным інтарэсам. Надломленаму духоўна і фізічна Конраду нішто ўжо не магло дапамагчы: ні сустрэчы з блізкімі, ні іх клопаты. Ён не мог пазбавіцца ад жудасных кашмарных відовішчаў і перажыванняў, асабліва, калі даведаўся, што следчы Палякоў, які здзекаваўся з яго ў турме, заслужаны бальшавік, удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе, цяпер стаў камандзірам партызанскага атрада і зноў патрабуе яго да сябе. Страціўшы апошнюю надзею выжыць, Конрад гіне гэтак жа цяжка і бессэнсоўна, як бессэнсоўным было яго існаванне падчас рэпрэсій.

Аднак многія з беларусаў, хто застаўся жывым, нейкім цудам вызваліўшыся з ГУЛАГу, марылі здабыць незалежнасць сваёй Бацькаўшчыне. Часта нават родныя браты аказваліся па розныя бакі барыкад, і такія сітуацыі знаходзілі сваё адлюстраванне ў творчасці Аляксандры Саковіч. У аповесці "Браты" асноўная ўвага пісьменніцы засяроджана менавіта на раскрыцці ўнутранага, духоўнага свету двух родных братоў, выхаваных зусім па-рознаму. Старэйшы Максім стаў сапраўдным беларускім патрыётам, вызнаваў погляды бацькі, якога аб'явілі "ворагам народа" толькі за тое, што ён горача любіў сваю Беларусь. Максім лічыў сваім абавязкам працягваць рабіць тое, чаго не далі зрабіць бацьку, які хацеў, каб народ быў вольным, каб пазбавіўся тэрору -- улюбёнага метаду праўлення дыктатараў і тыранаў. Малодшы Вадзім вырас пад уплывам маці, якая адраклася ад мужа -- "ворага народа" і выйшла замуж за следчага, супрацоўніка таго страшнага ведамства, што мадэліравала нацдэмаўскія працэсы на Беларусі, дапытваючы і катуючы безабаронных вязняў, як гэта рабілася ў Маскве ў 30-я гады. Яна, прыгожая жанчына, артыстка па прафесіі і ў жыцці, прывыкла быць у цэнтры сцэны, выконваць адпаведныя абставінам ролі. Звыклая жыць прыгожа, падпарадкоўваючыся сваім жаданням і памкненням, Вера Рымша не разумела мужа і старэйшага сына, хоць і прызнавала, што "іхныя ідэалы, філасофія жыцця, іхныя разуменні чалавечай годнасці -- высокія й чыстыя. Каб дасягнуць свае мэты, яны гатовыя на ахвяры. А што, калі чалавек не можа знайсьці ў сабе вялікае веры? Што рабіць, калі ён не хоча гібець, хоча жыць? Што, калі чалавек прыстасоўваецца?" І яна прыстасоўвалася, як магла. І гэту яе філасофію шмат у чым пераняў малодшы сын, нават пайшоў служыць па рэкамендацыі айчыма ў НКУС. Аднак у душы Вадзіма ўсё часцей пачынаюць узнікаць сумненні ў правільнасці абранага шляху. Ён памятаў бацьку, а пры сустрэчах з братам, у спрэчках з ім і яго сябрамі адчуваў няўпэўненасць, незразумелую вінаватасць і трывогу, імкнуўся давесці, што ён таксама любіць радзіму, турбуецца за яе лёс, але шукае іншых спосабаў да вызвалення з-пад акупацыі.

Аповесць наогул напоўнена роздумам пра шматпакутныя шляхі Беларусі, але і болем за яе адвечную раз'яднанасць, калі нават паміж адзінакроўнымі братамі няма паразумення, духоўнай еднасці ў поглядах на канцэпцыю яе развіцця, далучэння да еўрапейскіх, высокацывілізаваных краін, нягледзячы на тое, што Беларусь ляжыць у цэнтры Еўропы. Аднак пісьменніца ўсё ж выказвае веру ў прасвятленне, цвярозы розум памяркоўных беларусаў, якія праз боль і пакуты ўсвядомяць нарэшце, што яны народ, адзіная нацыя -- не было б толькі запозна...

Апавяданні, аповесці Аляксандры Саковіч, прысвечаныя падзеям 30-х--40-х гадоў на Беларусі, уражваюць уменнем пісьменніцы перадаць грамадскую атмасферу таго часу: трывогу, неспакой, страх, адчуванне няпэўнасці, няўстойлівасці, нікчэмнасці чалавечага жыцця, якое не мела ніякай каштоўнасці. Адначасна героі яе твораў, у лёсе якіх шмат у чым адбіўся лёс цэлага пакалення беларусаў, -- людзі высокамаральныя, з багатым духоўным зместам, шчырыя патрыёты. Яны добра разумелі сутнасць сталінскай эпохі, умелі думаць і аналізаваць, неслі ў сабе ўнутранае супраціўленне, непрыняцце бальшавіцкай ідэалогіі. Яны марылі і змагаліся, наколькі было магчыма, каб людзі жылі шчасліва ў незалежнай краіне, каб яны спажывалі тое, што зарабілі сваёй цяжкай, спрадвечнай працай.

Многія героі Аляксандры Саковіч -- сяляне, інтэлігенты, адраджэнцы, беларусы, адданыя Бацькаўшчыне, былі рэпрэсіраваны, высылаліся з Беларусі, тысячамі расстрэльваліся. Усе яны былі падбіты коламі гэтай бязлітаснай трагедыі часу, а тыя, каму пашчасціла выжыць, -- не зламаліся, не згубілі годнага чалавечага месца ў жыцці, пранеслі ў сэрцы любоў да незабыўнай, шматпакутнай Бацькаўшчыны.

З вялікім спачуваннем, глыбокім разуменнем малюе пісьменніца вобразы беларускіх жанчын, якім выпала на долю перажыць рэпрэсіі, страту блізкіх, смерць дзяцей, цяжкасці вайны і пайсці ў выгнанне. Дзякуючы творчасці Аляксандры Саковіч, упершыню ў беларускай прозе, так шырока быў паказаны лёс менавіта жанчыны на складаных выгнанніцкіх шляхах, так шчымліва загучала тэма выгнання, калі паміж беларусамі-эмігрантамі і Бацькаўшчынай пралеглі чужыя землі, пралёг акіян.

Гераіні твораў Аляксандры Саковіч паўстаюць перад намі ў розных абліччах, аднак за вобразамі дзяўчат, маладых жанчын, сямейнае мацярынскае шчасце якіх было разбурана бязлітаснымі катаклізмамі часу, бясконцымі войнамі, рэвалюцыйнымі перабудовамі, рэпрэсіямі, яскрава праглядваецца лёс самой пісьменніцы, раскрываецца духоўны свет яе сучасніц, свядомых беларусак, апантаных любоўю да Бацькаўшчыны.

У апавяданнях "Асірочаныя", "У няведам'е", "Настачка", "Петрыкаў тата", "Вяселле", "Чортава вока" пісьменніца вядзе чытача ўслед за героямі спачатку ў Германію, затым у Амерыку, дзе знайшлі прытулак, спакойны забяспечаны побыт шматлікія беларускія сем'і. У гэтых апавяданнях ужо зусім іншая танальнасць, уражанне такое, быццам чалавек пасля доўгіх гадоў няволі, вялікай небяспекі, пастаяннай трывогі, блуканняў па пакутах ва ўласнай краіне спыніўся нарэшце ў вольным свеце, азірнуўся вакол і пачаў ладзіць жыццё, годнае чалавека. Аднак душу вярэдзілі водгукі былога, цяжкія ўспаміны, якія і тут параджалі праблемы, розныя непаразуменні, спрэчкі. Спрачаліся, аналізуючы жыццё свайго краю "за палякамі" і "за саветамі", падчас вайны, суперажывалі былым вязням ГУЛАГаў, калі яны апавядалі пра бязмежныя паўночныя прасторы Расіі, калючыя драты, пакуты голаду і заўсёды настаўленыя ў спіну зняволеных стрэльбы вартавых, пра нечаканы ратунак -- уцёкі праз Іран, Егіпет, Сірыю... Але за ўсім гэтым цяжкім, балючым паўставала далёкае, затуманенае гадамі аблічча Бацькаўшчыны, згадвалася прыгажосць яе рэчак, азёр, лясоў, марылася пра вольную Беларусь, якая і тут, у Амерыцы, стала іх натхненнем, захавала, нягледзячы ні на што, сваё прыцягненне і заўсёды жыве ў іх абпаленых бязмежнай тугою сэрцах.

Характэрна, што ў прозе Аляксандры Саковіч, як і ў паэзіі пісьменнікаў-эмігрантаў, амаль не сустракаецца грунтоўных твораў пра Амерыку, якая стала ім другой радзімай. Агульныя штрыхі, цёплыя, прыязныя словы пра вольнае, уладкаванае жыццё беларускіх землякоў -- у гэтым даніна ўдзячнасці і павагі да гэтай багатай краіны.

Тое, што напісана беларускімі аўтарамі ў выгнанні, прысвечана незабыўнай Бацькаўшчыне і павінна вярнуцца на Беларусь, увайсці ў духоўны набытак новых пакаленняў.

**Лідзія САВІК.**

# ЛІТАРАТУРНАЯ ПАЛІТРА

І ў гэтым -- яго найвялікшая заслуга, як пісьменніка і чалавека. Бо толькі чалавек, надзелены такімі высокімі духоўнымі якасцямі, як чыстае непадробнае сумленне і непахісная мужнасць у жаданні застацца гэткім да канца -- да апошняга свайго слова, -- мае маральнае права размаўляць з намі так, як гэта робіць Барыс Пятровіч, -- закранаючы амаль усе без выключэння "болькі" нашага жыцця, -- бо піша ён не дзеля таго, каб, крануўшы гэтыя болькі, пахваліцца перад усім светам, які ён наўздзіў смелы ці прынцыпова бескампрамісны, а таму, што яму сапраўды баліць: баліць за сябе, за нас, за ўсіх, хто жыве на зямлі.

І гэты боль -- не прыдуманы з галавы, не скамбінаваны спалучэннем мастацкіх дэталяў або сітуацый, якія самі па сабе здольны выклікаць водгук у нашай душы -- крануць яе, як кранае, напрыклад, чысціня і празрыстасць кропелькі расы на лісточку, -- карацей, гэта не штучна выкліканы боль. Гэта наш -- сённяшні і цяперашні! -- боль -- нам ад яго нікуды не дзецца, бо мы сутыкаемся з ім штодзень, адно не ведаем, што з ім рабіць. І пісьменнік ціха падказвае нам: "Жыць! Пераадольваючы гэты боль і тое, што яго выклікае".

Менавіта гэтыя якасці -- у спалучэнні з талентам! -- і дазваляюць Барысу Пятровічу не апускацца ніжэй той планкі, якую ён вызначыў для сябе, як пісьменнік, як прадстаўнік нацыі, народа, ад імя і пра якога ён піша.

Такіх аўтараў, як Барыс Пятровіч, у літаратуры няшмат, і часцей за ўсё яны самі выбіраюць свой шлях -- пакутлівы і складаны, але цалкам творчы! -- няшмат толькі па адной прычыне: пісаць так, як піша Барыс Пятровіч, не вельмі проста. Прастата яго твораў -- уяўная. А за ёй -- найскладанейшы пошук і найвялікшая адказнасць за вымаўленае або напісанае слова.

Як шкада, што літаратуразнаўства не карыстаецца такім ёмістым, але, на жаль, такім рэдкім паняццем, як "сумленне нацыі". Гэта цалкам нелітаратуразнаўчае азначэнне, бадай, ці не найлепей падыходзіць да літаратара Барыса Пятровіча -- пісьменніка, голас якога -- ціхі і сумленны і, аднак, непахісны ў сваёй нягучнай мужнасці! -- дае падставу спадзявацца, што Беларусь не памрэ, адродзіцца, як адраджаецца чалавечая душа, сустрэўшыся з чысцінёй і шчырасцю.

## 2. НУЛЯВЫ МОМАНТ

Неяк, ідучы з Андрэем Федарэнкам, не стрымаўся і сказаў яму, што хачу напісаць артыкул пра ягоную аповесць "Вёска", бо яна выклікала шмат пярэчанняў пры чытанні -- не таму, што яна дрэнна напісана, а менавіта таму, што добра, і ў гэтым добрым не хацелася б бачыць дробных недахопаў, якія, хоць і нязначна, але псуюць агульнае ўражанне ад аповесці. Штосьці можна было б напісаць і не так -- лепей.

Федарэнка знешне амаль ніяк не адрэагаваў на мае словы, але, трохі прайшоўшы, па-федарэнкаўску праніклiва і разам з тым па-федарэнкаўску безабаронна і шчыра зірнуў на мяне і сказаў раптам: "А хіба я сам гэтага не ведаю?!"

І было ў ягоных словах гэтулькі канчатковай праўды, што мне ажно зрабілася няёмка: сапраўды, што гэта я?! Ці не пісьменніку лепей ведаць, што ён зрабіў так або не так? Наконт гэтага ў мяне сумненняў не было. Але ад напісання твора да яго публікацыі праходзіць, здараецца, столькі часу, што напісанае пісьменнікам здаецца яму ўжо амаль не ягоным, а калі і ягоным, то напісаным так даўно, што і чапаць тое, даўняе, не трэба: пісьменнік даўно вырас са свайго ранейшага твора, лепей нават -- даўно перарос яго, -- і на гэтым можна было б ставіць кропку. Але чытач, як правіла, сустракаецца з творам толькі па часе публікацыі, і зразумела, што пісьменнік бачыцца яму не гэткім, які ён ёсць зараз, а тым, кім ён быў у той момант, калі пісаў свой твор.

Артыкул так і не напісаўся: Федарэнкавы словы -- "А хіба я сам гэтага не ведаю?" -- абяззброілі мяне, але калі я наступны раз прыехаў у Мінск і пазнаёміўся з той палемікай, якая ідзе вакол яго твораў, то -- само сабой -- вярнуўся да сваіх ранейшых думак і ўжо не мог стрымліваць сябе: ніводзін з тых, хто пісаў пра Федарэнку, не асэнсаваў для сябе галоўнае: пра якога Федарэнку яны пішуць -- пра таго, які ён ёсць на самай справе, ці пра таго, якога яны намалявалі сабе -- каб зручней было выказаць сваю эрудыцыю або дасціпнасць. Палярнасць выказванняў -- ад поўнага адмаўлення да саладжава-непераканаўчага захвальвання -- адно шкодзіла чытачу (ды ці толькі яму!?). і ён не ведаў, каму верыць -- "Нашай ніве" альбо "Маладосці"?

Калі і весці гаворку пра Федарэнку, то казаць трэба не пра тое, што "каравяк ляжаў на дарозе" ("НН" N 7--8, 1995), і, зразумела, не пра "вялікую літаратурную будучыню Андрэя Федарэнкі", якая залежыць, дарэчы, не ад спадара А.Майсеенкі ("Маладосць" N 7-95, "У эпіцэнтры жыцця"). Казаць, напэўна, трэба пра тое, што з'яўляецца адметнасцю Андрэя Федарэнкі, як аднаго з самых таленавітых беларускіх празаікаў.

Ніхто, на мой погляд, не падкрэсліў дагэтуль таго факта, што аповесць "Вёска", з-за якой загарэўся "сыр-бор", з'яўляецца своеасаблівым водападзелам у творчасці пісьменніка. На чым грунтуецца маё сцверджанне? На тым няўлоўным і цалкам прыватным адчуванні, якое ўзнікае пры чытанні прозы А.Федарэнкі. Я маю на ўвазе тую асаблівасць асабістага ўспрымання слова (або тэксту), калі пры чытанні назіраюцца моманты, што далей чытаць ужо не хочацца. Не таму, што табе нецікава, і не таму, што гэта блага напісана. Наадварот: сітуацыі, якія не дазвалялі мне чытаць далей, былі выпісаны надзвычай добра, нават выдатна, але самі яны -- па сваёй сутнасці -- былі невырашальнымі -- у чыста жыццёвым плане. І пісьменнік, апісаўшы іх, адначасова перадаў нам і іхнюю невырашальнасць.

З гэткай асаблівасцю -- нежаданнем і немагчымасцю чытаць далей -- я сустракаўся, бадай, толькі двойчы. Першы раз -- чытаючы "Год нулявы" Вячаслава Адамчыка, другі -- пры знаёмстве з "Дальними берегами" Набокава, якія так і не здолеў асіліць: так па-майстэрску яны напісаны. Фрагментарнасць "Дальних берегов" дазволіла мне не чытаць увесь твор, але прычынай нечытання было іншае: паўната ахопу падзей у набокаўскіх фрагментах (або сітуацыях) была настолькі вялікая, што практычна не заставалася месца для маёй асабістай думкі -- не было чаго дадумваць, бо пісьменнік усё зрабіў сам! І за мяне! І праз тое -- як чытач -- я не меў волі над друкаваным тэкстам, ды і па-за ім таксама.

З Вячаславам Адамчыкам было трохі інакш: сюжэт рамана трымаў мяне ў абцугах і прымушаў зноў вяртацца да напісанага, але час ад часу я зноў спыняўся і думаў пра тое, чаму я не магу чытаць далей. І калі гэта паўтарылася шмат разоў, мне стала зразумелым не толькі тое, чаму я спыняюся ў канкрэтных месцах рамана, але і тое, чаму я ўвогуле так раблю.

Трохі паўтаруся, але падкрэслю: спыняўся якраз у тых месцах, дзе сітуацыя, апісаная аўтарам, была невырашальнай па сваёй сутнасці (менавіта ў канкрэтным тэксце канкрэтнага твора -- і гэта вельмі істотна!). Невырашальнасць сітуацыі (як у жыцці, так і ў рамане) нараджала пачуццё безвыходнасці: ты, як чытач і чалавек, разумееў, што нічога не здолееш паправіць у гэтай сітуацыі -- яна і ў жыцці застанецца такой, як была апісана. Не здолее паправіць яе і пісьменнік: ён ужо напісаў свой твор і вяртацца да яго наўрад ці будзе -- гэта зусім неабавязкова.

І вось гэта невырашальнасць сітуацыі -- а праз яе і нежаданне чытаць далей -- і наводзіла мяне на думку, што мы назіраем тут вельмі незвычайную, але адметную з'яву (калі мець на ўвазе Вячаслава Адамчыка і ягоны раман "Год нулявы") -- што пісьменнік у сваім творчым развіцці ўшчыльную падступіўся да той мяжы, за якой таленту адкрываецца ўсё: магчымасці самавыказвання ўзрастаюць настолькі, што абмежаванні, якія б яны ні былі -- чыста тэхнічнага альбо маральнага плана -- проста знікаюць. Пісьменнік у гэты момант наблізіўся (але шчэ не пераступіў яе) да той адзнакі, рысачкі, якую ўмоўна можна назваць "нулявым годам", або "нулявым момантам" (і В. Адамчык назваю рамана верагодней за ўсё чыста інтуітыўна падкрэсліў гэты стан).

Каб трохі ўдакладніць тое, пра што ідзе гаворка, зробім невялічкае, як раней казалі, "лірычнае адступленне".

Пісьменнік, як мы ведаем, нараджаецца ў дзяцінстве, а дакладней -- яшчэ ва ўлонні мацеры, хаця ні яна, ні той, хто народзіцца, не ведаюць пра гэта. Ідзе час, маленькі чалавечак расце, спазнае свет і ўжо там, у дзяцінстве, пазначае свае адносіны да гэтага свету -- ён ужо пісьменнік! -- хаця і не здагадваецца пра гэта.

І толькі тады, калі ён сустракаецца са словам -- часцей за ўсё друкаваным, -- да яго свядомасці пачынае даходзіць, што ж гэта за з'ява--слова. І хто ён сам такі, калі адчувае дзіўную блізкасць да гэтай незразумелай з'явы -- літараў, складоў, словаў?

З гэтага моманту і пачынаецца пісьменнік -- ён паставіў першую рысачку на сваіх каардынатах жыцця і творчасці, якія непазбежна фіксуюць і ягоны рост, і ягоны лёс.

Гэтая рысачка знаходзіцца ў самым нізе восі каардынатаў -- там, дзе звычайна стаяць лічбы са знакам мінус, -- і ніхто яшчэ не ведае, што нарадзіўся новы пісьменнік, бо рысачка тая -- адмецінка на восі -- нябачная нікому: пра яе ведае або здагадваецца (зразумела, інтуітыўна) толькі сам пісьменнік -- носьбіт таленту, што закладзены ў яго матухнай-прыродай.

І чым больш ён спазнае свет, чым больш асэнсоўвае сябе як творчую асобу, тым вышэй -- бліжэй да нулявой адзнакі -- падымаюцца рысачкі. Гэта, калі так можна сказаць, "сляпы" момант творчасці. "Сляпы" -- не азначае безвыніковы. Да таго моманту, калі творца наблізіцца да нулявой адзнакі, яго ўжо ведаюць, пра яго пішуць, з ягонымі думкамі спрачаюцца або прымаюць без усялякіх доказаў і пярэчанняў, карацей, ён ужо -- творца!

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**

**Працяг.**
**Пачатак у N 35.**



**Аналагаў гэтага майстэрства няма не толькі ў Беларусі. Вучоныя-мастацтвазнаўцы знайшлі нешта падобнае, што вырабляецца ў Англіі. Але па якасці, крайне маленькімі памерамі ўзораў пацягацца з гомельскімі майстрамі можа хіба рускі Ляўша. Работы Уладзіміра Цакунова сапраўды унікальныя: ён выкарыстоўвае малюсенькія стружкі розных парод дрэў, працуе толькі пінцэтам.**

**Стружкі ўкладваюцца ў сіметрычны ўзор дзякуючы асобай тэхналогіі склейвання. А самі шкатулкі выкананы з натуральнага дрэва.**

**На прылаўках магазінаў Гомеля работы В. Цакунова і яго вучняў паявіліся толькі нядаўна -- раней гэтыя шкатулкі купіць можна было толькі ў Мінску.**

**НА ЗДЫМКАХ: майстар Уладзімір ЦАКУНОЎ (злева) і яго вучні Віктар УЧКУРОЎ, Слава ЦЕСЛЯ, Валянцін НОВІКАЎ; работы гомельскіх майстроў.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



## САКРАТ ЯНОВІЧ:

# ТАЛЕНТ – ГЭТА ЗДОЛЬНАСЦЬ ПРАЦАВАЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Як, напрыклад, стварэнне падпольнага Саюза беларускіх патрыётаў ці канспіратыўнага Беларускага незалежнага выдавецтва. Восенню 1970 года падпаў пад праследаванне ўлад, але яго абаранілі польскія інтэлігенты. Амаль што ўсё свядомае жыццё ён прысвяціў абароне годнасці беларусаў у Польшчы, адраджэнню беларускага палітычнага руху. Сакрат Яновіч піша ўсё (за малым выключэннем) на беларускай мове. Ён упэўнены, што калі пісьменнік імкнецца дасягнуць максімуму сваіх магчымасцей, то ён павінен пісаць на роднай мове. Родная мова ў яго душы, родная мова -- гэта яго Бог. І на гэтай мове размаўляюць героі яго твораў. Яновіча як пісьменніка, у першую чаргу, цікавіць чалавек. Яго галоўная тэма -- гэта тэма беднага чалавека. Яе цяжка назваць захапляючай, гэта, хутчэй, пакутлівая тэма. "Я ўвесь час, -- гаворыць Сакрат, -- свядома ці падсвядома аналізую беднага чалавека -- беларуса, які перажывае ў сабе ўсе няшчасці, дадзеныя яму лёсам. Перажывае, што не стварыў у сабе ўнутраны патэнцыял, каб выходзіць з гэтага становішча. Ён увесь час жыве як бы ў стане перачакання. Няма нічога горшага за такую пазіцыю. Але ж гэта не можа цягнуцца бясконца. І тое, што адбываецца зараз на Беларусі, паказвае, што беларус пачынае выходзіць з гэтага стану, ён выпростоўваецца. Гэта цяжкі працэс, але ён пачаўся. Я з аптымізмам гляджу ў будучыню". Думаю, трэба чакаць ад Сакрата новых твораў, дзе знойдуць адлюстраванне гэтыя яго разважанні. А працуе ён шмат. Але ж, як сам кажа, марудна. Добра, калі за дзень-другі напіша старонку рукапісу. "Бо галоўная мая праца, -- жартуе Сакрат, -- у выкрэсліванні напісанага. Павінна застацца толькі тое, што павінна застацца".

Нядаўна напісаў С. Яновіч кнігу пра мястэчка Гарадок, што недалёка ад Крынак, закончыў апавяданне, звязанае з успамінамі дзяцінства, і з нагоды шасцідзесяцігоддзя ўзяўся за падрыхтоўку выдання сваіх дзённікаў за апошнія пятнаццаць год. Шмат працы мае і з выданнем тома апавяданняў, які будзе надрукаваны ў Венецыі на беларускай і італьянскай мовах. Сакрат Яновіч не можа ўявіць сваё жыццё без добрых творчых кантактаў з беларускімі літаратарамі. З вялікай цеплынёй гаворыць ён аб сяброўстве з Васілём Быкавым і Янкам Брылём, з іншымі пісьменнікамі. З цікавасцю сочыць за поспехамі маладых.

Ад'язджаючы ад Сакрата Яновіча, вырашылі пад'ехаць да мяжы з Беларуссю, што не больш, як за кіламетр ад хаты пісьменніка. Дарога ўзбегла на пагорак і ўперлася ў паласаты шлагбаум. Мой спадарожнік, добра ведаючы гэтыя мясціны, патлумачыў: гэта лес ужо на беларускім баку, а вось хата за пяць метраў ад мяжы -- на польскай.

Слухаў я, а сам думаў аб умоўнасці гэтай граніцы. Бо жывуць тут такія самыя сяляне, бо жыве тут, побач, наш зямляк, беларус, добры чалавек -- Сакрат Яновіч.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАТЭЛІІ

# ЖАДАЮ МЯНЯЦЦА МАРКАМІ

Філатэлістычны рух у рэспубліцы мае доўгую і цікавую, але яшчэ не вывучаную і не напісаную гісторыю. У многіх краінах свету ўжо даўно праведзена архіўна-даследчая работа, напісаны шматлікія артыкулы, выдадзены манаграфіі па гісторыі мясцовых філатэлістычных арганізацый, адсвяткаваны розныя юбілеі філатэлістычнага руху (у Польшчы, напрыклад, у 1993 годзе адзначана 100-годдзе зараджэння нацыянальнай філатэліі). Але, на жаль, яшчэ няма сярод гэтых матэрыялаў хаця б невялікага нарыса ці артыкула па гісторыі беларускай філатэліі. На працягу многіх гадоў я збіраў матэрыял па гісторыі філатэлістычнага руху ў Беларусі. Але яшчэ не ўдалося знайсці якіх-небудзь дакументаў, якія б асвятлялі гісторыю беларускай філатэліі ў канцы XIX -- пачатку XX стагоддзяў. Не знойдзены такія дакументы і за перадваенныя гады. На думку пецярбургскага даследчыка гісторыі расійскай і савецкай філатэліі М.Глейзера, усе архіўныя матэрыялы філатэлістычных арганізацый Беларусі 20-х -- 30-х гадоў загінулі ў час вайны. Амаль няма ніякіх дакументаў аб стварэнні першых клубаў, таварыстваў калекцыянераў у гарадах рэспублікі нават у недалёкія 50-я гады.

У гэтай гісторыі яшчэ многа нявысветленых і забытых фактаў і падзей, белых плямаў, няяснасцяў, не апісаны трагічныя падзеі гісторыі 30-х гадоў. Амаль ніводная цяпер існуючая абласная ці гарадская філатэлістычная арганізацыя не стварыла свайго мінулага і сучаснага летапісу.

* * *

Не магу назваць дакладнай даты зараджэння філатэліі ў Беларусі, пакуль не маю такіх звестак. Але ўпэўнена магу сказаць, што філатэлістычны рух у нашай рэспубліцы мае сваю гісторыю -- і доўгую, і цікавую. У 1857 годзе ў Расіі была выпушчана першая паштовая марка, а першыя філатэлісты з'явіліся ў 60--70-я гады XIX стагоддзя. У верасні 1883 года ў Маскве ствараецца таварыства філатэлістаў, у снежні таго ж года ў Санкт-Пецярбургу арганізуецца секцыя Міжнароднага саюза філатэлістаў у Дрэздэне, у 1910 годзе гэтая секцыя рэарганізуецца ў Расійскае таварыства філатэлістаў (РТФ). К канцу XIX стагоддзя гурткі і таварыствы філатэлістаў існавалі ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Кіеве, Хельсінкі. У спісе няма ніводнага беларускага горада, але гэта не значыць, што ў іх не жыў ніводны філатэліст. Проста пакуль няма такіх даных, бо яны пакуль не знойдзены. У дарэвалюцыйны перыяд у Расіі выдаваліся філатэлістычныя каталогі і кнігі, выходзіла некалькі філатэлістычных часопісаў.

У 1907--1908 гадах у Расіі назіраўся ўздым філатэлістычнага руху, а гады 1910--1914 былі часам сапраўднага філатэлістычнага буму. Папулярныя газеты і часопісы стракацелі філатэлістычнымі аб'явамі і артыкуламі на філатэлістычную тэматыку, у буйных гарадах меліся філатэлістычныя магазіны. К 1914 году "Иллюстрированный альбом марок для всех стран" вытрымаў 15 выданняў. Пачатак 1-й сусветнй вайны знізіў цікавасць да філатэліі і спыніў дзейнасць таварыства.

Сказанае вышэй наводзіць на думку, што не магла "прайсці філатэлія міма" нашага краю. Былі і ў беларускіх гарадах філатэлісты, можа не было гурткоў, таварыстваў, але людзі, якія захапляліся збіраннем марак, былі, і даныя аб іх трэба шукаць.

З'явілася ж у часопісе "Родник" за 1910 год, які выдаваўся для юнацтва Е.Сысоевай і А.Альмедынгенам, аб'ява юнага філатэліста з Пінска такога зместу: "Уступлю ў клуб "Родника". Жадаю мяняцца маркамі. Ці няма ў каго сербскай, узамен даю аўстралійскую. І.Георгіеўскі. Пінск". На сённяшні дзень гэта пакуль першае, вядомае мне ўпамінанне ў літаратуры аб беларускім збіральніку паштовых марак. Аб'ява наводзіць на думку: юны школьнік ці гімназіст не мог сам па сабе захапіцца паштовымі маркамі. Відаць, юнак меў прыклад -- альбо навучыўся філатэліі ў сваіх юных сяброў, альбо ў дарослых збіральнікаў. Пінск у 1910 годзе быў не вельмі вялікім павятовым гарадком, і, калі ў ім былі філатэлісты, то, відаць, былі яны і ў больш буйных губернскіх гарадах.

Ёсць яшчэ адзін доказ таго, што ў пачатку стагоддзя філатэлія ў Беларусі існавала.

Шукаючы матэрыялы па гісторыі беларускай пошты і філатэліі, я пазнаёміўся з былым дырэктарам Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея А.Мартынавым, ураджэнцам Кобрына. У адным са сваіх пісьмаў А.Мартынаў напісаў, што ён "філатэліст з доўгай барадой -- маркі пачаў збіраць у далёкім 1916 годзе". Натуральна, што паведамленне гэтае мяне вельмі зацікавіла, і я папрасіў расказаць больш падрабязна, як ён стаў філатэлістам. Вось што ён напісаў: "У 1915 годзе наша сям'я з Кобрына эвакуіравалася ў г.Рагачоў тагачаснай Магілёўскай губерні. Я вучыўся ў рэальным вучылішчы, дзе панавала павальнае захапленне калекцыяніраваннем марак. Не прайшло гэтае захапленне і міма мяне. А тут яшчэ шчасце прываліла ў 1918 годзе. Над Дняпром стаяў так званы "замак Боны", у якім размяшчаўся склад рэчаў Яраслаўскага пяхотнага палка. Полк адпраўляўся на фронт. Для нейкіх патрэб будынак выслабанілі, усё, што там засталося, выкінулі. Па схілу ўзгорка былі раскіданы ўсякія рэчы, і сярод іх валяліся маркі, якія салдаты вытраслі з нейкай скрыні. Быў сакавік-красавік, раставаў снег. Я з братам прыносіў дамоў цэлыя сумкі гэтага мокрага і бруднага дабра. Мылі, сушылі. Там былі акуратна звязаныя пачкі па 100--200 штук розных марак царскай Расіі, чыстыя і гашаныя, былі цэлыя лісты гэтых марак, мноства пісем з маркамі. Былі там і замежныя маркі -- Францыі, Фінляндыі канца XIX стагоддзя і многае іншае. Ужо ў 20-я гады я прадаваў гэтыя французскія маркі фірме Цумштэйна. Гэтая знаходка -- фантастычны скарб -- садзейнічала ўздыму філатэлістычнай цікавасці ў рагачоўскіх юнакоў. У 1918 годзе рагачоўская пошта прадавала царскія маркі з польскай наддрукоўкай арла (Пошта Першага Польскага корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага. -- **Л.К.**), якія мы куплялі, абавязкова патрабуючы, каб іх гасілі. Тады лічылася, што для калекцыі чыстыя непрыгодныя. Вядома, у рагачоўскіх рэалістаў не было ніякіх філатэлістычных ведаў, магчыма, потым мала хто з іх стаў філатэлістам, але тады ва ўсіх нас цікавасць да марак была вялікая".

А.Мартынаў захаваў гэтую цікавасць да сённяшняга дня. Успаміны старога філатэліста адкрылі нам да гэтага часу невядомую старонку гісторыі беларускай філатэліі -- рагачоўскую. Паведаміў А.Мартынаў і аб тым, што перад першай сусветнай вайной і ў Кобрыне быў філатэліст: мясцовы начальнік паштовай канторы Рыгор Сацэвіч збіраў маркі.

**Леў КОЛАСАЎ.**

СПОРТ





**Больш за 70 спартсменаў Беларусі, Літвы і Расіі прынялі ўдзел у адкрытым чэмпіянаце Рэспублікі Беларусь па парашутнаму спорту. Ён праходзіў на базе Нацыянальнага аэраклуба. Парашутысты спаборнічалі ў скачках на дакладнасць прызямлення і адзіночнай акрабатыцы, акрамя таго суддзі ацэньвалі спартсменаў у дваяборʼі.**

**Званне абсалютнага чэмпіёна ў мужчынскай падгрупе заваяваў 23-гадовы спартсмен з Баранавічаў Алег Лях, сярод жанчын чэмпіёнкай стала брэсцкая парашутыстка Наталля Шалемава.**

**Па выніках гэтага чэмпіянату будзе сфарміравана зборная каманда Рэспублікі Беларусь, якая ў верасні паедзе на чэмпіянат свету па парашутнаму спорту.**

**НА ЗДЫМКАХ: абсалютны чэмпіён Беларусі па парашутнаму спорту спартсмен Баранавіцкага аэраклуба Алег ЛЯХ; у свабодным падзенні.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

# МУЗЕЙ ЖЫВОЙ ПРЫРОДЫ

Школьнікі звычайна знаёмяцца з флорай і фаунай па вучэбных дапаможніках. Аднак бываюць і прыемныя выключэнні. У сталічнай школе N 44 створаны унікальны музей жывой прыроды, арганізаваны фірмай "Несі".

Як расказаў паляўніцтвазнавец Уладзімір Бычкоў, загадчык музея прыроды, ідэя яго стварэння ўзнікла ў фірмы больш за тры гады назад. За гэты час музей набыў не толькі такіх звыклых для школьных жывых куткоў прадстаўнікоў фауны, як чарапахі і рыбкі, але і такіх, як пітоны, вараны, анаконды, розныя змеі, абсалютна бяспечныя і неатрутныя. Ёсць у музеі таксама невялікае птушынае царства, у якім жывуць снегіры, шчаглы і чыжы. Можна тут пазнаёміцца і з разнастайнымі раслінамі: на сцяне размясціўся гербарый. Вядома, буйных жывёл у школе завесці нельга, аднак з гэтай сітуацыі работнікі музея выходзяць, набываючы разнастайныя чучалы.

Па словах Уладзіміра Бычкова, настаўнікі выкарыстоўваюць любую магчымасць, каб пазнаёміць сваіх выхаванцаў з прадстаўнікамі жывёльнага свету. Тым больш, што ўваход у музей бясплатны. Часта сюды прыязджаюць дэлегацыі з іншых школ сталіцы, каб правесці ўрокі заалогіі і біялогіі.

Вядома, без праблем тут не абыходзіцца. Ніякага прыбытку музей не прыносіць, таму грошай на набыццё новых жывёл не хапае. А планаў у яго супрацоўнікаў дастаткова, тым больш, што некаторыя вальеры пустуюць. Нядаўна дапамог Беларускі фонд Сораса, выдзеліўшы школьнаму "заапарку" невялікую суму. Аднак усё роўна на яго ўтрыманне патрэбны немалыя сродкі, якія фірма "Несі" прадаставіць можа не заўсёды.

**НА ЗДЫМКУ: Саша ПЕНЗАЎ, Аляксей САБАДАШ і лабарант музея Уладзімір КУЛЯШОЎ вынеслі пітона на прагулку.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**



**Намеснік рэдактара**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 925. Падпісана да друку 2. 9. 1996 г.**